

# Беларус

**50-ГОДЗЬДЗЕ!**

*«Другі Ўсебеларускі Кангрэс... пастанавіў: Вызнаць правільнай і зноў пацьвердзіць гістарычную пастанову Рады Беларускай Народнай Рэспублікі... 25 сакавіка 1918 г.»*

*Менск, 27 чэрвеня 1944 г.*

№ 414 Ліпень 1994
Год выд. 43

BIELARUS / Belarusan Newspaper in the Free World. Published by the Belarusan American Ass'n, Inc.

Address: P.O. Box 310178, Jamaica, N.Y. 11431-0178, U.S.A. Price $2.50

## ПЕРШЫ ПРЭЗЫДЭНТ БЕЛАРУСІ

Аляксандар Лукашэнка, здабыўшы ў другім туры выбараў 80 працэнтаў галасоў, паказаў, што ён умее займацца палітычным боксам. Цяпер перад ім і перад цэлай рэспублікай стаіць пытаньне: ці здолее ў Лукашэнку палітык перамагчы баксёра?

У атмасфэры эканамічнага заняпаду й маральнага разброду (вынік кебічаўска-намэнклятурнай палітыкі), здабыць большыню галасоў, абяцаючы «неадкладна 'павымятаць' карумпіраваных чыноўнікаў з вышэйшых органаў улады» («Звязда», 29.03.94), выявілася нескладаная апэрацыя: у перадвыбарчых выступленьнях Лукашэнка зацята даваў па сківіцах бюракратам рытарычнымі кулакамі ды прыгаворваў праклёны тым, хто развалілу «могучую страну (СССР), в которой мы все знали, что надо делать».

Але ці будзе ён ведаць, «что надо делать» менавіта цяпер, калі пачалася зусім новая фаза ў жыцьці рэспублікі, калі на галоўнае месца стала ўжо не лупцаваньне кебічаўцаў (хай сабе і заслужанае), а прыцягваньне да супрацоўніцтва як мага большае колькасьці людзей, стымуляваньне пазытыўных падыходаў і паглядаў, скіраваных на палепшаньне эканомікі ды на ўмацоўваньне дзяржаўнасьці, як перадумовы выхаду з гаспадарчага й маральнага крызісу. Ці 39-гадовы энтузіяст «моцнага кулака» будзе разумець, наколькі складаны працэс кіраваньня дзяржавай ва ўмовах незалежнасьці, дэмакратыі і свабоднага рынку? Ці ён здасьць усе прынцыпова важныя пастановы на водкуп Маскве, каб адтуль ізноў беспамыльна даведвацца, «что надо делать»?

Удача прэзыдэнта Лукашэнкі ў эканамічнай галіне, што стаіць на першым месцы, будзе залежаць ня толькі ад ягонага ўменьня палепшыць на карысьць Беларусі дзелавыя сувязі з Расеяй, але й ад ягонае здольнасьці стварыць сабе добрую рэпутацыю за мяжой, наладзіць па магчымасьці шырэйшыя кантакты з заходнім сьветам, дзе яго тымчасам ведаюць толькі, як «беларускага Жырыноўскага». Бо як-бы Лукашэнка ні набліжаў Беларусь да Расеі — «Прэзыдэнт ініцыюе і будзе разьвіваць працэсы аб'яднаньня дзяржаў, якія раней уваходзілі ў састаў СССР» (пункт зь ягонай праграмы, «Звязда», 11.06.94) — беларуская эканоміка і дабрабыт народу могуць быць забясьпечаныя толькі пры ўмове шырокіх міжнародных сувязяў.

Цяпер у заходніх сталіцах будуць уважліва прыглядацца да новага прэзыдэнта ў Менску. А гэта перш-наперш у сувязі з геапалітычным палажэньнем Беларусі і ў выніку даволі вялікай улады, якую дае прэзыдэнту новая канстытуцыя рэспублікі. Важным ацэначным крытэрыем на Захадзе будзе Лукашэнкава стаўленьне да нацыянальнай дзяржаўнасьці. Калі ён будзе і надалей выступаць у ролі беларускага нігіліста, які адкідае афіцыйна прынятую дзяржаўную сымболіку і дэманстрацыйна носіць стары бээсэсэраўскі значок — знак свайго жаданьня вярнуць старое, дык такая цана ўваччу вонкавага сьвету будзе і ачольванай ім рэспублiцы. Такое будзе й спрыяньне ейнаму дзяржаўнаму станаўленьню ды эканамічнай адбудове. Замежныя дыпляматы й бізнэсмэны будуць езьдзіць у Маскву, не затрымваючыся ў Менску.

Вонкавы сьвет будзе меркаваць пра адносіны новага беларускага кіраўніцтва да свае дзяржаўнасьці найперш паводля Лукашэнкавага стаўленьня да беларускай культуры, у тым ліку да роднай мовы, якую Лукашэнка ведае, але якую ён адкрыта ігнараваў на працягу ўсяе свае передвыбарчае кампаніі, незважаючы на тое, што ў ягонай-жа праграме запісана: «Асаблівым клопатам прэзыдэнта павінна стаць беларуская нацыянальная культура». («Звязда», 11.06.94). Гэта што — пачатак ужо разьбежнасьці паміж словам і справай?..

Як адзначаюць некаторыя знаўцы беларускай сытуацыі, у тым ліку і тыя, што не залічаюць сябе да лукашэнкаўскага лягеру, у новага прэзыдэнта Беларусі ёсьць «моцная каманда». У часе передвыбарчай кампаніі ў ліку называных прозьвішчаў найчасьцей згадваліся народныя дэпутаты Дзьмітры Булахаў (г. нар. 1959) і Віктар Ганчар (г. нар. 1957), абодвы юрысты. Трэба спадзявацца, што ў Лукашэнкавай «камандзе» знойдуцца людзі, якія будуць разумець, што ўдача праграмы новага беларускага прэзыдэнта будзе залежаць не ад колькасьці сьвежых бюракратаў ля дзяржаўнага стырна, а ад таго, наколькі Лукашэнка здолее энэргізаваць фізычныя й духовыя рэсурсы народу на ўмацаваньне нацыянальнае дзяржаўнасьці ды адраджэньне беларускае культуры, а таксама наколькі яму ўдасца ўключыць заходнія дзяржавы ў працэс вываду Беларусі з крызіснага стану.

## БЕЛАРУСКІ НАРОД ЗРАБІЎ СВОЙ ВЫБАР І, ЗДАЕЦЦА, ПАМЫЛІЎСЯ

10-га ліпеня гэтага году на Беларусі быў абраны першы прэзыдэнт. Ім стаў саракагадовы дырэктар саўгасу, нястомны змагар з карупцыяй Аляксандар Лукашэнка.

Насуперак усім прагнозам выбары першага прэзыдэнта рэспублікі прайшлі даволі актыўна — у першым туры прынялі ўдзел каля 78 працэнтаў выбаршчыкаў, у другім — каля 70. Такім чынам, нягледзячы на вельмі моцную падтрымку афіцыйных сродкаў масавай інфармацыі, кандыдатуры прэм'ер-міністра Кебіча, пераважная большасьць выбаршчыкаў аддала свае сымпатыі Аляксандру Лукашэнку. У прыватнасьці, у другім туры за спадара Лукашэнку прагаласавалі па папярэдніх падліках 80,1 працэнту людзей, якія прынялі ўдзел у выбарах. А Вячаслаў Кебіч набраў усяго 14,2 працэнты галасоў. Сваё паражэньне Кебіч прызнаў ужо 11 ліпеня, не дачакаўшыся афіцыйнага падліку вынікаў выбараў. У гэты дзень Вячаслаў Кебіч выступіў з заявай, у якой, у прыватнасьці, адзначыў: «Нягледзячы на блізкасць нашых з Аляксандрам Рыгоравічам праграмаў, мы па-рознаму бачым шляхі іх ажыцьцяўленьня. Мы абмяркавалі сытуацыю ва ўрадзе, і сёньня я не бачу магчымасьці працягваць работу ў якасьці Старшыні Савета міністраў і заяўляю аб сваёй адстаўцы. Гэта азначае, што фактычна на Беларусі ад 11-га ліпеня пачаўся пэрыяд безуладзьдзя. Новы прэзыдэнт яшчэ не атрымаў свае паўнамоцтвы, а стары ўрад Кебіча фактычна іх ужо склаў. Відавочна, такая сітуацыя працягнецца дзесьці да 20-га ліпеня — менавіта на гэты дзень плянуецца сэсія Вярхоўнага Савета, якая і каране Аляксандра Лукашэнку.

Чаго чакаць ад новага прэзыдэнта? Людзі, якія яго выбралі, спадзяюцца, што добры прэзыдэнт Лукашэнка хутка і вельмі проста вырашыць усе іхныя праблемы. А менавіта: у крамах зьявяцца танныя тавары і прадукты харчаваньня, дзяржава зноў будзе спраўна плаціць ім грошы (хай сабе й не заробленыя імі) і наогул усё будзе як у часы існавання СССР: жыць будзе лепш, жыць будзе весялей. Вось толькі адкуль з'явяцца гэтыя даброты не ведаюць ня толькі выбаршчыкі Лукашэнкі, але, здаецца, і сам прэзыдэнт. Тлумачэньні Аляксандра Лукашэнкі наконт выхаду рэспублікі з крызісу пад яго кіраўніцтвам выглядаюць даволі наіўна. Спадар Лукашэнка спадзяецца, што варта яму толькі загадаць кіраўнікам прадпрыемстваў, запалохаць дырэктароў звальненнем з пасады, як фабрыкі й заводы Беларусі ўжо да новага году запрацуюць на поўную моц. Іншых шляхоў выйсця з крызісу з вуснаў свайго новаабранага лідэра беларусы не пачулі. Зрэшты, такая простая формула іх задавальняе. Вось толькі ці надоўга? Бо сытуацыя ў эканоміцы рэспублікі зараз крытычная: спад вытворчасьці каля 35 працэнтаў, інфляцыя да 50 працэнтаў у месяц. Натуральна, што камандна-адміністрацыйнымі мерамі, якія прапануе Лукашэнка, вывесьці краіну з такога крызісу немагчыма. Патрэбны эканамічныя рэформы. Але аб іх прэзыдэнт падчас сваёй передвыбарчай кампаніі гаварыў ня надта шмат. Лукашэнка, як і Кебіч, вельмі спадзяецца на аб'яднаньне грашовых сыстэм з Расеяй. І ўвогуле, што датычыць узаемаадносін з братняю Русьсю то тут погляды Кебіча і Лукашэнкі амаль цалкам супадаюць. Праўда, для выбаршчыкаў гэта было ўжо неважна. Людзі зьнявераліся ў Кебічу і ягонай камандзе і не паддаваліся ні на якія абяцанкі. Відавочна, такі-ж лёс чакае праз год-паўтары і ўсенароднага любімца Лукашэнку. Наўрад ці яму ўдасца даўжэй пратрымацца на крэдыты народнага даверу. А можа Аляксандру Рыгоравічу й не трэба большага? Бо, калі верыць яго выступленьням, ён будзе імкнуцца да рэанімацыі Савецкага Саюзу. Гэта значыць, першы прэзыдэнт незалежнай Беларусі можа стаць і апошнім, добраахвотна аддаўшы сваю краіну і яе народ у склад Расейскай імпэрыі. Бо відавочна, што нават аб'яднаўшы грашовыя сыстэмы з Расеяй, Беларусь перадасьць кантроль і кіраваньне сваёй

*(прцяг на 2-ой б.)*

## КАРОТКІЯ БІЯГРАФІЧНЫЯ ЗЬВЕСТКІ АБ ПЕРШЫМ ПРЭЗЫДЭНЦЕ

Нарадзіўся ў 1954 годзе у вёсцы Александрына Шклоўскага раёну Магілёўскай вобласці. Беларус. Мае дзьве вышэйшыя адукацыі — скончыў Магілёўскі пэдагагічны інстытут і Беларускую сельскагаспадарчую акадэмію. У 1975 годзе пасьля заканчэньня пэдагагічнага інстытуту працаваў сакратаром камітэту камсамолу сярэдняй школы г. Шклова.

Ад 1975-га займаў розныя адміністрацыйныя пасады і быў партыйным кіраўніком у войску, на прадпрыемствах, ў калгасах і саўгасах, Шклоўшчыны.

Апошні год Аляксандар Лукашэнка працаваў старшынём парламенцкай камісіі па барацьбе з карупцыяй, дзякуючы чаму, набыў папулярнасьць у народзе. Жанаты, мае двух сыноў. Жонка працуе выхавальніцай ў дзіцячым садку. Замежных моў, апрача рускай, ня ведае. Палітычныя куміры — Дзяржынскі, Андропаў, Машэраў. Па веравызнаньню праваслаўны. Пасля путчу 1991-га году выйшаў з камуністычнай партыі і да гэтага часу з'яўляецца беспартыйным. Аднак, падчас передвыбарчай кампаніі Лукашэнку актыўна падтрымлівалі пракамуністычныя арганізацыі. Увесь час падкрэсьлівае, што быў адзіным дэпутатам, які галасаваў супраць Белавежскіх пагадненьняў аб ліквідацыі Савецкага Саюзу.

**BIELARUS**
Belarusan Newspaper in the Free World
Published monthly by
BELARUSAN AMERICAN ASSOCIATION, INC.
**Subscription $ 25 yearly**
**«БЕЛАРУС»** — Газэта Беларусаў у Вольным Сьвеце.
*Выходзіць месячна* *Рэдагуе Калегія*
Выдае: Беларуска-Амэрыканскае Задзіночаньне.
*Падпіска зь перасылкаю 25 дал. на год.*
Артыкулы, падпісаныя прозьвішчам або ініцыяламі аўтара, могуць зьмяшчаць пагляды, зь якімі Рэдакцыя не згаджаецца.

# НАРОДНЫ ФРОНТ РАТУЕ, АБАРАНЯЕ, ДАПАМАГАЕ

27 чэрвеня ў сялібе БНФ адбылася прэс-канфэрэнцыя. Сп. Пазьняк зачытаў ніжэй пададзеную заяву і адказаў на пытаньні:

Вынікі першага туру выбараў Прэзыдэнта засьведчылі, што рэжым Кебіча ў яго цяперашнім выглядзе пацерпеў крах. Але людзі выбралі сродкам свайго пратэсту супраць камуністычнага рэжыму галасаваньне за прадстаўніка новага пакаленьня наменклатуры, падмануўшыся ягонаю сацыяльнай фразэалогіяй.

Першы тур выбараў засьведчыў палітычны і псіхалагічны стан нашага грамадзтва. Народ, які шмат гадоў атручвалі камуністычнай прапагандай, пастаўлены перад выбарам: альбо незалежная эўрапэйская дзяржава Беларусь і самастойная палітыка, альбо страта незалежнасьці і нацыянальнай пэрспэктывы ў абмен на прывідныя абяцанкі апекі іншай дзяржавы. Гэты выбар галоўны, бо вызначае наш народны лёс.

23 чэрвеня ён адбыўся на карысьць страты, адбыўся хутчэй неўсьвядомлена пад уплывам прапаганды і дэмагагічнай агітацыі. У другі тур прайшлі А. Лукашэнка і В. Кебіч. Гэтая кандыдаты належаць да аднаго палітычнага асяродзьдзя. Іх яднае ненавісьць да беларускага нацыянальнага адраджэньня, да незалежнага дзяржаўнага станаўленьня нашай нацыі, да рынкавага рэфарматарства, да беларускай культуры, да эўрапэйскага шляху разьвіцьця Беларусі.

Іх разьядноўвае — барацьба за ўладу. Гэта барацьба падобных. Змагаючыся, яны апэлюць да народу.

Мае аднадумцы і я заклікаем не галасаваць на выбарах за гэтых кандыдатаў. Выбар аднаго зь іх стане працягам ганебных памылак і грамадзкага няшчасьця, прадаўжэньнем народнага самагубства. Галасаваньне за гэтых людзей увогуле траціць сэнс, бо выбару няма. Я не пайду на такія выбары.

Народны Фронт і я, як яго прадстаўнік, трапілі ў складанае становішча. Маючы каля 40 працэнтаў электарату (прыхільнікаў), мы пераконвалі выбаршчыкаў не скандаламі і зьнявагамі супернікаў, а сваімі пазытыўнымі праграмамі і канструктыўнымі прыкладамі. Але прэзыдэнцкая выбарчая кампанія доўжылася 20 дзён, а выкарыстаньне эфіру — два тыдні (ад 7-га да 21-га чэрвеня). Нідзе ў сьвеце такіх сьціслых тэрмінаў не было і няма. Людзям, незадаволеным урадам, не было часу добра ва ўсім разабрацца і яны, шукаючы магчымасьці засьведчыць пратэст супраць рэжыму Кебіча, выказаліся на карысьць разбуральнай дэмагогіі. Але я ўпэўнены, што народ яшчэ разьбярэцца.

Дзейнасьць сп. сьпікра С. Шушкевіча і кіраўнікоў некаторых партыяў пераняла ад Фронту толькі некалькі працэнтаў галасоў і рэальнага ўплыву ня мела. Аднак шкада, што некаторыя партыйныя кіраўнікі ня здолелі ці не пажадалі зразумець мэтазгоднасьці яднаньня дэмакратаў вакол Народнага Фронту.

Народны Фронт правозіць адкрытую, маральную палітыку, выступае супраць камуністычна-наменклатурнай мафіі, усіх згоднікаў і супрацоўнікаў з гэтай мафіяй. Народны Фронт — гэта *народная апазыцыя* карумпаванаму наменклатурнаму рэжыму. Я не сумняваюся ў надзейнасьці палітыкі нашага руху.

Каб выправіць становішча, якое склалася пасьля першага туру выбараў, патрэбны час і доступ да сродкаў масавай інфармацыі. Час — гэта некалькі тыдняў. Доступ да сродкаў масавай інфармацыі павінен забясьпечвацца гуртаваньнем усіх апазыцыйных рэжыму народных некамуністычных сілаў вакол Народнага Фронту. Маю на увазе рабочы рух, сялян, прадпрынікаў, што стаяць на дзяржаўных пазіцыях, інтэлігентаў, якім дарагая культура і свабода Беларусі, дэмакратычная партыі, якія разумеюць агульныя задачы нацыі і краіны і ставяць іх вышэй за асабістыя інтарэсы.

Неабходна стварыць заканадаўчыя гарантыі свабоды прэсы і інфармацыі. Вярхоўны Савет павінен адмовіцца ад заснавальніцтва «Народнай газэты», а Савет Міністраў — ад сваёй манаполіі на пэрыядычныя выданьні, тэлебачаньне і радыё. Трэба неадкладна аднавіць дзейнасьць радыёстанцый «Беларуская маладзёжная» і «Крыніца», выпуск забароненых газэтаў «Навіны БНФ» і «Выбар», даць нармальную магчымасьць друкавацца газэце «Свабода». Спадары Сталяроў, Булацкі, Бутэвіч, Драгавец, Аляксейчык, Паваляеў, Мельнікаў і Замяталін, якія скампрамэнтавалі сябе антыдэмакратычнымі дачыненьнямі з прэсай і антыдзяржаўнай палітыкай — павінны быць адпраўленыя ў адстаўку.

Яшчэ застаўся шанц не пагоршыць становішча. Беларускі Народны Фронт павінен прадоўжыць жорсткі кантроль за выбарамі. Нельга дапусьціць, каб фальсіфікатары накідалі бюлетэняў (а такое было) за выбаршчыкаў, якія не прыйдуць галасаваць. Назіральнікі мусяць быць на кожным выбарчым участку.

У гэтых абставінах ніхто з тых, каму баліць лёс і будучыня Беларусі, не павінен маўчаць. Мафія і палітычныя авантурысты заўсёды выяжджалі, наверх на сьпіне ашуканага народу. Трэба тлумачыць людзям зьмест таго, што робіцца, дапамагаць ім арыентавацца ў падзеях. Народны Фронт заўсёды ратаваў народ, бараніў яго ад наменклатурнай улады, дапамагаў людзям. Калі яны будуць мець магчымасьць параўнаць і падумаць, то, я ўпэўнены, прымуць правільнае рашэньне, каб захаваць будучыню сваёй краіны.

Я ўдзячны там выбаршчыкам, што разабраліся, паставілі подпісы і прагаласавалі за мяне, і ўпэўнены, што Фронт з падвойнай энэргіяй будзе змагацца ў гэтых абставінах за праўду — дзеля людзей і лепшую долю Беларусі.

**Зянон Пазьняк,**
**Старшыня Беларускага Народнага Фронту,**
**Народны дэпутат Беларусі**



*Малюнак Міколы ПРГЕЛЯ*

## Паважаныя суайчыньнікі!

27-га ліпеня 1994 году спаўняецца чацьвёртая гадавіна Дня незалежнасьці Рэспублікі Беларусь, абвешчанага ў гонар прыняцьця Вярхоўным Саветам Беларусі Дэклярацыі аб дзяржаўным сувэрэнітэце нашай краіны.

Чатыры гады — вельмі малы тэрмін у шматвяковай гісторыі беларускага народу. Аднак па сваёй значнасьці ў замацаваньні асноў нашай дзяржаўнасьці, самасьвядомасьці і сапраўднай незалежнасьці гэты пэрыяд быў выключна плённым. За гэты час прынятая *першая* Канстытуцыя Рэспублікі Беларусь, якая заканадаўча вызначыла шляхі стварэньня дэмакратычнага грамадства, абраны *першы* ў гісторыі прэзыдэнт дзяржавы. За гэты час Беларусь стала *першай* краінай сьвету, якая сьвядома адмовілася ад усіх арсэналаў ядзернай зброі, яна таксама вызначыла для сябе мэту нэўтралітэту. За гэты час бел-чырвона-белы сьцяг зазьзяў над *першымі* паўнамоцнымі дыпляматычнымі прадстаўніцтвамі Беларусі ў 18 краінах сьвету. За гэты час тысячы нашых суайчыньнікаў, якія стала жывуць за мяжой, змаглі *ўпершыню* наведаць Бацькаўшчыну і нават сабрацца на *Першы* зьезд беларусаў сьвету на роднай зямлі.

Але-ж добра вядома, што шлях да свабоды і самастойнасьці ніколі ў гісторыі не быў простым, пасыпаным ружамі. Гэта адчула на сабе й наша маладая дзяржава, сутыкнуўшыся зь немалымі цяжкасьцямі, перш за ўсё эканамічнага характару.

І тым не менш, думаю, у нас ёсьць усе падставы, каб з аптымізмам глядзець у будучыню. Таму што спакойнае ўменьне нашага народу пераадольваць цяжкасьці, яго шчырасьць і працавітасьць, мудрасьць і разважлівасьць, падмацаваныя рэальнымі магчымасьцямі самому вырашаць свой лёс, упэўнены, дапамогуць нашай маладой Беларусі заняць, гаворачы купалаўскімі словамі, «свой пачэсны пасад між народамі».

Шчыра віншую вас, дарагія суайчыньнікі, з гадавінай Дня незалежнасьці нашай Бацькаўшчыны! Жадаю вам здароўя і посьпехаў, духоўнай моцы, плёну ў вашых сувязях з Радзімай, якой цяпер — можа нават, як ніколі ў мінулым — патрэбна дапамога і словам і справай.

**Жыве Беларусь!**

**Сяргей МАРТЫНАЎ,**
**Пасол Рэспублікі Беларусь у ЗША**

## БЕЛАРУСКІ НАРОД ЗРАБІЎ ВЫБАР...

*(пачатак на 1-ай б.)*

эканомікай ў Маскву. А калі яшчэ спадар Лукашэнка заключыць палітычны саюз, то мажліва, будуць ліквідаваныя й асноўныя інстытуты незалежнай дзяржавы, распушчана яе войска. І яшчэ невялічкае дэталь. Аляксандар Лукашэнка з'яўляецца актыўным прыцюнікам беларускай дзяржаўнай сымболікі. Ён, бадай, адзін зь нямногіх дэпутатаў, які носіць стары бэсэсэраўскі дэпутацкі значок. Лукашэнка не хавае сваіх намераў правесці рэфэрэндум па вяртаньню «бэсэсэраўскай» сымболікі, а таксама наданьню статуса дзяржаўнай і расейскай мове. Апошняе, відаць, прэзыдэнт зробіць дзеля сваёй-жа зручнасьці, бо ні разу падчас сваёй палітычнай кар'еры Лукашэнка не размаўляў па-беларуску. Хоць і расейская ў вуснах першага прэзыдэнта гучыць не надта чыста, моцны акцэнт выдае ў Аляксандру Лукашэнку селяніна-беларуса. І адкуль у гэтага дырэктара саўгасу, які доўгі час жыў у асяродзьдзі людзей, што размаўляюць па-беларуску, такая непавага да роднай мовы? Зрэшты, нічога дзіўнага тут няма. Першы беларускі прэзыдэнт — дзіця свайго часу, дзіця свайго народу. І дай Бог, каб гэты народ як мага хутчэй набыў высокую нацыянальную сьвядомасьць, палітычную культуру і дзяржаўнае мысьленьне.

**Мікола ДЗЯБЁЛА**

## БЕЛАРУСКІЯ РАДЫЁПЕРАДАЧЫ Ў ЭСТОНІІ

Ад пачатку 1990 году на Эстонскім радыё пачалі гучаць передачы на беларускай мове. Пытаньня, як назваць перадачу, не стаяла. Передача адразу пачала выходзіць у эфір пад назвай «Бацькаўшчына».

У гэты час Эстонія аб'явіла сябе незалежнай краінай. Заснавальнікі нашай радыёперадачы Лявон Валуй, Сяргей Сотчанка і іншыя падтрымалі барацьбу эстонскага народу за незалежнасьць. І вось вынік – да гэтага часу наша радыёперадача гучыць у эфіры дзяржаўнага Эстонскага радыё. Справа ў тым, што ў Эстоніі да нас, беларусаў, ставяцца з паразуменьнем і паважаюць усіх, хто памятае свае карані, гісторыю, мову.

Спачатку нам выдзялілі толькі 30 хвілінаў гутаркаў ў месяц, потым столькі-ж у тыдзень. Потым час у эфіры павялічыўся на І-эй гадзіны ў тыдзень. Зараз мы працуем па 45 хвілінаў у тыдзень на беларускай мове. Мы вырашылі, аднак, павялічыць свае перадачы, і кожны тыдзень інфармацыя зь Беларусі гучыць і ў рускай мове.

Перашкодаў з боку адміністрацыі Эстонскага радыё не было.

Станаўленьню нашай радыёперадачы «Бацькаўшчына» дапамагалі вядомы ў Беларусі журналісты радыёстанцыі «Беларуская маладзёжная» Віталь Сямашка, Уладзімір Давыдоўскі, Тацьцяна Сапач, якая зараз жыве й працуе ў Вільні, Тацьцяна Дубавец – журналіст газэты «Наша ніва» зь Вільні. Яны перадавалі нам вельмі цікавыя матэрыялы па гісторыі Беларусі, рэфармацыі царквы на Беларусі музычна-фальклёрныя; мы атрымалі шмат інтэрв'ю з гісторыкамі, навукоўцамі, акторамі, сьпевакамі, пісьменьнікамі, таксама дапамаглі нам з набыцьцём музычнай фанатэкі.

Пакуль не было межаў, мытняў, была агульная рублёвая зона, да нас маглі прыязджаць цікавыя людзі, напрыклад, акторка Тацьцяна Мархель, бард-сьпявак Алесь Камоцкі і іншыя сьпевакі, інтэрв'ю з якімі прагучалі ў нашых перадачах.

Зараз усё больш складана. Нашыя сябры ня могуць атрымаць візу на ўезд у Эстонію, а мы ня маем сродкаў, каб каго-небудзь запрасіць да сябе. У сённяшніх умовах мы вымушаны самі шукаць матэрыялы для перадач. Мы скарыстоўваем усё, што маем у асабістых бібліятэках: газэты, часопісы, мастацкую літаратуру, народныя календары, расказваем аб дзейнасьці Таварыства беларускай культуры ў Таліне. А я асабіста стараюся браць як мага больш інтэрв'ю ў суайчыньнікаў, якія жывуць у Эстоніі.

У мінулым годзе мне давялося пабываць на Першым з'ездзе беларусаў сьвету і менавіта з гэтага часу пачалася плённая праца нашага калектыву – з'явілася магчымасьць набыць даволі значную бібліятэку, зрабіць цікавы музычны матэрыял на сьвяткаваньні Купальля і запісаць некалькі інтэрв'ю.

Да кастрычніка мінулага году мы працавалі толькі ўдваіх. А ў кастрычніку да нас далучыўся яшчэ адзін чалавек – спецкарэспандэнт у Менску, які кожны тыдзень перадае нам навіны. Ад сакавіка гэтага году да нас прыйшлі яшчэ дзьве асобы, нягледзячы на тое, што заробку ад сваёй працы мы не маем. У нас згуртаваўся сапраўдны калектыў энтузіястаў, якія ахвяруюць сваім вольным часам і матэрыяльным дабрабытам.

У пачатку году мы наладзілі добрую сувязь з таварыствам «Радзіма», якому вельмі ўдзячныя за дапамогу – мы пачалі атрымваць газэту «Голас Радзімы» – адзіны сродак масавай інфармацыі зь Беларусі які да нас даходзіць. Цікавую інфармацыю з гэтай газеты мы скарыстоўваем у сваіх перадачах.

Я асабіста ўдзячная супрацоўнікам таварыства «Радзіма» за арганізаваную для мяне стажыроўку на Беларускім радыё, якую я праходзіла ад 23-га красавіка да 23-га траўня, а ў ролі фундатара выступіла Таварыства беларускай культуры ў Таліне.

Паколькі наша радыёперадача мае культурна-асьветніцкі накірунак, то мы вельмі ўважліва падбіраем тэмы, імкнемся задавальняць просьбы нашых радыёслухачоў. У эфіры ў апошні час прагучаў цыкл перадачаў прысьвечаных пісьменьнікам – ахвярам сталінскіх рэпрэсіяў ці відавочцам рэпрэсіяў; цыкл перадачаў пад назвай «Нашы славутыя землякі», прагучаў цыкл «Архітэктура Беларусі» і перадачы, прысьвечаныя вядомым беларускім паэтам, музыкантам, мэцэнатам. Не забываемся пра народную творчасьць, фальклор, расказваем аб беларускіх абрадах, сьвяткаваньнях, парадах з народных календароў. А самае галоўнае – гэта беларуская мова, якой мы больш за ўсё ўдзяляем часу. Цыкл перадачаў, прысьвечаных беларускай мове, напэўна, самы працяглы. Нажаль, мы вымушаныя былі зьняць дзіцячую старонку, дзелятага што ў апошні час нашыя перадачы пачынаюцца позна, у 22 гадзіны 15 хвілін.

Паколькі Эстонія адключыла тэлеперадачы Астанкіна і Расійскага тэлебачаньня і шмат рускамоўнага насельніцтва засталося без інфармацыі, колькасьць радыёслухачоў нашай перадачы значна павялічылася. Сярод нашых радыёслухачоў зьявіліся палякі, украінцы, рускія і яўрэі, што паходзяць зь Беларусі. Да нас часта пачалі зьвяртацца з рознымі цікавымі прапановамі. Актывізавалася дзейнасць сяброў Таварыства беларускай культуры, зь якімі калектыў радыёперадачы мае агульныя мэты і цэсна супрацоўнічае. У апошні час вельмі часта просяць выканаць заяўкі, і не толькім музычныя, – просяць пачытаць казкі Уладзіміра Караткевіча.

Але, на жаль, сярод нашых суайчыньнікаў ёсць і такія, хто варожа ставіцца да нашай радыёперадачы і нашага калектыву. Гэта так званыя «рускамоўныя беларусы», былыя камуністы, лідэры інтэрруху, былыя вайскоўцы, якія стараціі свае пасады і пазыцыі ў сувязі з забаронай дзейнасці кампартыі і інтэрруху ў Эстоніі і якія не знаходзяць сваё месца ў новым жыцці.

Хацелася-б спадзявацца, што ў гэтых людзей калі-небудзь прачнецца нацыянальная свядомасць, бо-ж мы дзеці адной краіны, аднаго народу і дзяліць нам няма чаго.

А ў канцы сваёй інфармацыі хачу дадаць, што разам з Таварыствам беларускай культуры мы маем намер павялічыць час передачы, палепшыць якасьць і выдзеліцца з рэдакцыі нацыянальных перадачаў у асобную беларускую рэдакцыю, запрашаць да супрацоўніцтва таленавітых і цікавых людзей.

**Вольга ГАЛАВАШКІНА**
**карэспандэнт Эстонскага радыё, сябра праўленьня Таварыства беларускай культуры ў Таліне**

*З жыцьця у Лёндане*

## ВЫСТАВА РЭСПУБЛІКІ БЕЛАРУСЬ — «СЕЕТЕХ 94»




*На выставе Т. Зданковіч, Дырэкцыя тэкстыльнага заводу з Горадні (цэнтар), А. Здանковіч*

На выставе Цэнтральнай і Усходняй Эўрапейскай тэхналёгіі і інвэстыцый, якая адбывалася у Лёндане у днях 9-12 траўня, было 34 экспанаты зь Беларусі. Хоць выстава гэта была выключна для «бізнэсменаў», аднак зацікавіла нас і, разам з жонкай, ІІ-га траўня мы наведалі выстаўку.

Вітаючыся з прадстаўнікамі першых нам сустрэтых кампаніяў, у вадказ мне чуюцца словы рускія, так-што падаёмся да наступных ... Затрымаўшыся пры экспанаце ручной і машыновай дэкаратыўнай прадукцыі жаночых блюзак Бабруйскага заводу, размаўляю з галоўным інжынерам гэтага заводу сп. А. Розум і прадстаўніцай О. Адаян. Размаўляем на роднай нам мове. Закранаем шмат якія аспекты беларускага адраджэньня і паўстае супольнае задаваленьне, што вось гэта выстава Беларусі налічвае 34-ры экспанаты, што на ей блізу 200 асоб кваліфікаваных працаўнікоў індустрыі Беларусі.

Міма ўсіх цяжкасьцяў сяньняшняга дня ў Беларусі чуюцца словы поўныя надзеі й аптымізму, бо не зважаючы на ўсё нэгатыўнае, што засталося ад чужацкіх акупацыяў, незалежнасьць Беларусі натхняе да творчага жыцьця, да сама выстаўка гэтаму ў падцьверджаньне. На запытаньне — ці пашыраецца веда беларускай мовы ў народзе, атрымалі адказ — так. Моладзь пачынае прыкладацца да вывучэньня беларускай мовы, а наша надзея на моладзь.

У часе гэтай размовы да нас далучыўся Гэнэральны консул Рэспублікі Беларусь О. Якавіцкі і прадставіў амбасадора Беларусі у В. Брытанію У. Сянько, які прыбыў у Лёндан напярэдадні.

Далейшым нашым зацікаўленьнем быў тэкстыльны завод, што ў Горадні. Завод прадуке хімічнае валакно. Ад дырэктара даведваемся, што ўжо чатыры бізнэсмены зрабілі заказ на іхны прадукт.

Спыніла нас цікавая вывеска — «Крыніца» ў трох мовах: рускай, беларускай і ангельскай. (Мушу тут зазначыць, што усе памфлеты на экспанатах зьмяшчалі рускую мову першай, а беларускую другой). Прадстаўнікі Крыніцы Л. Ланко і Ул. Юрчук запрасілі нас за стол і пачаставалі нас сваім прадуктам — півам. Пасьля узаемна прыязнай размовы яны падаравалі нам па бутэльце піва: «Старажытняе» и «Бурштын Беларусі», а гэтак сама вітамінізаваныя напіткі «Цэвіты».

* * *

У траўні сёлета Лёндан наведала Ганна Сурмач, Старшыня Рады Згуртаваньня Беларусаў Сьвету. 11-га траўня ў Скарыніцы была лекцыя праф. А. Макміліна "Resistance and Resignation: the Vestiges of Socialist Realism in modern Belarusian Literature". Праф. Дынглі прывітаў Г. Сурмач. Кароткім выступленьнем яна выказала задаваленьне, што прыбыўшы у Манчэстар, яна са сваім супадарожнікам бізнесменам С. Стук змаглі быць на Багаслужбе а. Я. Абабуркі у БАПЦ ды адведаць беларусаў ў Брадфордзе ды ў Лёндане.

**А. Здановіч**

## КНІГА ПРАЎДЫ ПРА КУРАПАТЫ

13-га чэрвеня ў сядзібе Народнага Фронту на Варвашэні 8 адбылася доўгачаканая падзея – прэзэнтацыя кнігі *Курапаты – Kurapaty.*

Зянон Пазьняк каротка распавёў пра нялёгкі шлях стварэньня кнігі. Яна мела выйсьці ў менскім дзяржаўным выдавецтве «Беларуская Энцыкляпэдыя», але выдавецтва выставіла Пазьняку непрымальныя патрабаваньні скараціць тэкст. Таму першае выданьне кнігі зьдзейсьніў па-беларуску і па-ангельску Беларускі Інстытут Навукі й Мастацтва ў Нью-Ёрку, дырэктар якога Вітаўт Кіпель выступіў на прэзэнтацыі. Другое, пашыранае выданьне літаральна празь некалькі месяцаў ажыцьцявіла ў Менску незалежнае выдавецтва «Тэхналёгія». Вацлаў Багдановіч, дырэктар «Тэхналёгіі» таксама выступіў з словам.»

Выступаючы на гэтай важнай і ўрачыстай падзеі, д-р Вітаўт Кіпель падкрэсьліў, што хоць БІНІм і ажыцьцяўляў выданьне кнігі пра Курапаты, але ўдзел ў фінансаваньні кнігі брала ўся беларуская дыяспара. Пры гэтым адзначыў д-р Кіпель, беларусы за мяжой падтрымалі выданьне кнігі пра Курапаты з маральным задавальненьнем, што дакумэнтуецца адно з больш, дасюль раскрытых, злачынстваў камуністычнае ўлады над беларускім народам. Гэтаксама Вітаўт Кіпель акцэнтаваў, што і ў будучыні беларуская эміграцыя зробіць усё магчымае, дапамагаць дакумэнтацыі нашае трагічнае навейшае гісторыі.

На ўрачыстасьці прэзэнтацыі кнігі прысутнічалі таксама амэрыканскі й брытанскі паслы, прадстаўнікі розных эўрапэйскіх дзяржаваў, ды шматлікія прадстаўнікі акадэмічнага й палітычнага сьвету Рэспублікі Беларусь.

*З жыцьця ў Нью-Джэрзі*



*Зьлева-направа: Ю. Кіпель, В. Тур, сэнатар Ф. Лаўтэнбэрг, Ю. Азарка, Натальля Русак.*

13-га чэрвеня сёлета дэлегацыя ад Нью-Джэрзійскага Аддзелу БАЗА ў складзе Юркі Азаркі, Юркі Кіпеля, Натальлі Русак і Віктара Тура мелі спатканьне з сэнатарам Франкам Лаўтэнбэргам.

Найперш дэлегацыя правяла працяглую гутарку з трымя сябрамі ягонага кабінэту, у якой яны мелі нагоду расказаць пра беларускую эміграцыю, пра гісторыю Беларусі, пра сучасны стан ды пра Чарнобыльскую трагэдыю на Беларусі. Было гэктаксама ўзьнятае пытаньне як Амэрыканскі ўрад змог бы дапамагчы Беларусі.

Пасьля гэтай, больш дэталёвай дыскусіі, было спатканьне й кароткая гутарка з сэнатарам Лаўтэнбэргам, у часе якой высьветлілася, што маці сэнатара паходзіць зь Беларусі.

Дэлегацыя падаравала сэнатору беларускія кнігі і часопісы.

Гэтае першае спатканьне адчыняе дзьверы для далейшых спатканьняў і дыялёгаў беларускай эміграцыі з прадстаўнікамі амэрыканскага ўраду.

**Юрка Кіпель**

* * *

26-га чэрвеня ў Гайланд Парку адбыўся гадавы сход Нью-Джэрзыйскага Аддзелу БАЗА. Старшыня Аддзелу Янка Азарка адчыніў сход, а а. Васіль Андрэюк благаславіў працу сходу. Сп. Якуб Сапежынскі быў выбраны на старшыню сходу, а сп. Васіль Русак — на сакратара.

У сваёй прамове, старшыня Аддзелу сп. Я. Азарка падкрэсьліў пасьпяховую працу Аддзелу за мінулы год: арганізаваньне сьвяткаваньня 25-га Сакавіка, правядзеньне Кангрэсу БАЗА. Ён гэтаксама ўспамянуў вялікія дасягненьні Аддзелу ў наладжаньні кантактаў з кангрэсмэнам Палонэ і сэнатарамі Лаўтэнбэргам і Брадлей ды падзякаваў сп. Юрку Азарку і сп-ні Галіне Русак за супрацоўніцтва.

Нью-Джэрзійскі аддзел БАЗА рабіў гэтаксама захады перад амэрыканскімі урадавымі коламі для пасыланьня назіральнікаў за выбарамі прэзыдэнта Беларусі.

На новага старшыню Аддзелу быў выбраны сп. Юрка Азарка. Новыя сябры ураду: Юрка Кіпель, Якуб Сапежынскі, Віктар Тур і Янка Азарка.

Пляны новага ўраду на будучыню наступныя: актывізаваць Камітэт Палітычнай Акцыі; актыўнае прыдбаньне новых сяброў; наладжаньне Сьвята-Фэстывалю Купальле.

**Юрка Азарка**

*Дораты, у штаце Нью-Джэрзі*

У нядзелю 3-га ліпеня сёлета парафіяне й настаяцель парафіі БАПЦ Сьв. Тройцы шаноўны архімандрыт Карп, віталі Ўладыку Мітрапаліта Мікалая, які з Таронта прыехаў адведаць гэтую малую, але дзейную беларускую парафію й грамаду. Вернікі БАПЦ з суседніх прыходаў у Гайланд-Парку й Нью-Ёрку суправаджалі Уладыку Мікалая ў ягонай візытацыі.

2-га ліпеня сёлета адбылося ўрачыстае адчыненьне сэзону у Беларускім Адпачынковым Цэнтры «Бэлэр-Менск».

30-га-31-га ліпеня адбудзецца 30-ая Спартовая Сустрэча Беларуска-Амэрыканскае моладзі. Плянуецца гэтаксама дзіцячы лягер.

## АДКАЗЫ РЭДАКЦЫІ

*Сп. Паўлу Гузу з Аўстраліі*

Артыкул Ваш аб Другім Усебеларускім Кангрэсе атрымалі. Шчыра дзякуем. На вялікі жаль ня зможам яго выкарыстаць, бо быў ён ужо надрукаваны ў «Голасе Часу». Газэта «Беларус», як правіла, ня друкуе артыкулаў, якія ўжо дзесь зьявіліся. У будучыні прысылайце свае артыкулы выключна для «Беларуса».

## ГВАЛТ НАД АЛЕГАМ БЕМБЕЛЕМ ПРАЦЯГВАЕЦЦА

Пра намаганьні гарадскіх уладаў Менску высяліць гвалтам навукоўца й паэта Алега Бембеля зь ягонага бацькоўскага дому ў Менску (вул. Якуба Коласа, 29а) газэта «Беларус» пісала ўжо ў жніўні летась. Гвалт над А. Бембелем аднак працягваецца, ідзе далей грубое парушэньне правоў чалавека, загарантаваных канстытуцыяй, а таксама прынцыпаў абвешчанае уладамі прыватызацыі. 25 чэрвеня сёлета прадстаўнік гарадскіх уладаў зламаў ломам замок у дзьвярах Бембелевага дому, у якім яшчэ змагаецца за свае правы ягоны ўласьнік, адаслаўшы сям'ю жыць тымчасам у іншым месцы. Бальшавіцкая экспрапрыяцыя і гвалт над чалавекам, як выглядае, ня маюць межаў у сучаснай Беларусі. Здымак А. Бембеля ля сваіх зламаных дзьвярэй зроблены на наступны дзень пасьля выламу замка.



*А. Бембель каля зломаных дзьвярэй*

*З жыцьця ў Кліўлендзе*

## ПАРАХВІЯЛЬНАЕ СЬВЯТА

Беларуская калёнія ў Кліўлендзе адзначыла урачыста парахвіяльнае сьвята патронкі — Жыровіцкае Божае Маці, якое абылося ў нядзелю 22-га травеня сёлета. Перад гэтым, у сыботу была адслужана вячэрня, а пасьля службы ў царкоўнай залі адбылася вячэра, у часе якой духавенства мела нагоду абмяркаваць царкоўныя справы.

Сьвяткаваньне распачалося архірэйскай службай а 10-ай гадзіне раніцы, якую ачоліў Мітрапаліт Мікалай, Першы Ярарх БАПЦ у саслужэньні з мітрафорным прат. Васілём Андрэюком з парахвіі ў Гайленд Парку, Нью-Джэрзі, мітраф. прат. Александрам Радэнковічам з Флярыды й настаяцелям парахвіі прат. Міхасём Страпком. Служба прайшла вельмі ўрачыста, добра сьпяваў царкоўны хор. У часе службы Мітрапаліт Мікалай узнагарадзіў прат. М. Страпка крыжам і аздобамі. У канцы літургіі Мітрапаліт сказаў добрую казань, у якой падаў гістарычныя ведамкі аб зьяўленьні іконы Жыровіцкае Божае Маці. Крэсны ход замыкаў гэтую частку ўрачыстасьцяў.

Пасьля службаў у залі Грамадзкага Цэнтру Полацку адбыўся банкет, які быў добра прыгатаваны працаўнікамі цэнтру. Праграму вёў настаяцель М. Страпко. У часе банкету адзначылі й прывіталі Мітр. Мікалая зь яго днём нараджэньня, адсьпяваўшы Многае лета і ўручылі яму падарунак ад парахвіі й Жаночага Задзіночаньня Кліўленду.

Прывіталі гэтаксама гасьцей з Дэтройту: др. Язэпа Сажыца, Кацю Мазура, Люду Бакуновіч, Юрку Мазура зь Беларусі й гасьцей з Еры, Пэнсыльваніі.

Мітрапаліт Мікалай заклікаў усіх трымацца разам свае царквы й выказаў надзею, што паколькі прынятая канстытуцыя Рэспублікі Беларусь і мова беларуская зьўяляецца дзяржаўнай, дык ёсьць надзея, што беларуская мова будзе ўведзеная і ў царкоўнае жыцьцё на Бацькаўшчыне.

У канцы старшыня парахвіяльнае рады сп-ня Оля Дубаневіч падзякавала духавенству, гасьцям, усім прысутным да працаўнікам за ўдзел і добрае наладжаньне гэтай урачыстасьці.

**К.П.**

**З жыцьця ў Бостане, у штаце Масачусэтс**



23-га чэрвеня сёлета, каля Гарадзскога будынку ў Бостане, стараньнем мясцовых беларусаў, у прыватнасьці Язэпа Пацэвіча, былў вывешаны беларускі сьцяг у адзначэньне першых прэзыдэнцкіх выбараў у Беларусі.

Бастонская газэта "Boston Globe" за 24-га чэрвеня зьмясьціла кароткую інфармацыю пра выбары у Беларусі — «вьіцяг, перапоўнены клопатамі й страхам за эканамічную сытуацыю, якая ўсячас пагаршаецца...»

*З жыцьця ў Кліўлендзе*

## АДКРЫЦЬЦЁ СЭЗОНУ ПІКНІКАЎ

Камітэт Беларуска-Амэрыканскага Цэнтру Полацку ў Кліўлендзе, адчыніў у нядзелю 29-га травеня 1994 г. сэзон пікнікаў, якія будуць прадаўжацца ў нядзелі праз цэлае лета.

Праграма пачалася Божаю службаю ў залі Полацку, якую адправіў прат. Міхась Страпко. Пазьней усе перайшлі на плошчу пікнікаў каля возера, дзе, пры лесе былі расстаўленыя сталы. Мэню складалася з розных страваў, але цэнтрэм увагі была сьвежая шынка, тушаная на вогнішчы, на месцы добра ведамым кухаром Андрэям Стрэчыням. Пагода была добрая, цёплая, і сабралася шмат людзей старэйшых, малодшых, дзяцей. Бяседа прадаўжалася ў вясёлым настроі пры сталах, групамі. Прыгожа гучэла касэтная музыка зь Беларусі аж да 6:00 вечара.

А 6:30 пачаліся агульныя танцы у залі пад аркестру Валі Пархоменка й яе мужа Алеся Казака й дачкі Олі. Рэпэртуар гэтае аркестры складаўся ў бальшыні з мэлёдыяў беларускіх песьняў, пры гэтым і вакальным выкананьнем, а часамі з удзелам і танцораў, што моцна спадабалася прысутным. У часе перапынку была вячэра, ды далей прадаўжаліся танцы з урыўкамі канцэртных выступленьняў Пархоменкаў да 9-ае гадзіны вечара.

Дзень прайшоў вельмі прыемна й весела. Ён зьяднаў сяброў беларускае калёніі старэйшых і малодшых, разьвясяліў іх пасьля такое доўгае й халоднае зімы. Вялікая падзяка тут належыць сябром камітэту Полацку й удзельнікам наладжаньня, ды хочацца пажадаць ім добрых посьпехаў у наладжаньні далейшых пікнікаў.

**К.П.**

## НАВУКОВА-ГРАМАДЗСКАЯ ДЗЕЙНАСЬЦЬ НА БАЦЬКАЎШЧЫНЕ

У травені-чэрвені сёлета на Беларусі адбыліся некалькі канфэрэнцыяў, у якіх бралі ўдзел таксама беларускія дасьледнікі як з блізкага, гэтак і далёкага замежжа.

**Ад 17-га да 21-га травеня** ў мясцовасьці Іслач, што каля г. Ракава, адбыўся кангрэс, арганізаваны Беларускім ПЭН-цэнтрам, пад назовам *«Посттаталітарнае грамадзтва: асоба і нацыя»*. Праводнай тэмай на кангрэсе была праблема пагрозы свабодзе інтэлектуальнай творчасьці грамадзтву як на Беларусі, гэтак і ў іншых краінах былого Савецкага Саюзу. Было падкрэсьлена, што ўжо і цяпер беларускі урад вядзе змаганьне з журналістамі і інтэлігенцыяй праз шматлікія судовыя працэсы.

У працах кангрэсу ўзялі ўдзел прадстаўнікі блізу 20-ёх краінаў. Ад беларускіх дасьледнікаў у ЗША чыталі даклады д-р Вітаўт Кіпель і д-р Ян Запруднік.

**24-га – 25-га травеня** ў Менску адбылася міжнародная навуковая канфэрэнцыя *«Яўрэйская культура Беларусі і яе узаемадзеяньне з беларускай і іншымі культурамі»*.

Канфэрэнцыя была арганізаваная Аб'яднаньнем Яўрэйскіх Арганізацыяй і Абшчын Беларусі, Нацыянальным Навукова-Асьветным Цэнтрам імя Ф. Скарыны, Міжнароднай Арганізацыяй «Джойнт», Міжнароднай Асацыяцыяй Беларусістаў ды іншымі згуртаваньнямі і установамі. У працы канфэрэнцыі браў актыўны ўдзел таксама пасол Ізраіля ў Беларусі сп. Эліах Валк, які выдатна валодае беларускай мовай, прадстаўнікі розных міністэрстваў Рэспублікі Беларусь, а з Амэрыкі у канфэрэнцыі удзельнічалі сп.сп. Якаў Гудман (зь Нью-Ёрку), Ігар Котлер (з Каліфорніі), Дэвід Фішман, прафэсар у Яўрэйскай Тэалягічнай Сэмінарыі, Нью-Ёрк, Ян Запруднік і Вітаўт Кіпель.

**23-га травеня** ў Менску, у Доме Літаратара адбывалася навуковая канфэрэнцыя скліканая *Ўсебеларускім Жаночным Фондам Эўфрасіньні Полацкай.*

У канфэрэнцыі бралі ўдзел д-р Вітаўт Кіпель і д-р Янка Запруднік.

**5-га чэрвеня** ў Гародні адбылася міжнародная канфэрэнцыя *«Шлях да ўзаемнасьці»*, якую арганізаваў Саюз Палякаў Беларусі, Гарадзенскі Абласны Фонд Культуры і Гродзенскі Аблвыканкам. На канфэрэнцыі дыскутаваліся польска-беларускія дачыненьні, а ў працах яе бралі ўдзел Консул Польшчы – пані Альжбэта Смулкова, а з дыяспары д-р Вітаўт Кіпель.

**12-га – 13-га чэрвеня** ў Менску праходзіла міжнародная навуковая канфэрэнцыя *«Культура Беларускага Замежжа»*, якую арганізавалі: Згуртаваньне беларусаў сьвету «Бацькаўшчына» і Нацыянальны Навукова-Асьветны Цэнтр імя Ф. Скарыны. З дакладамі выступалі каля 50-х асобаў. Беларускімі дакладчыкамі з Амэрыкі былі: д-р Ян Запруднік, сп-ня Зора Кіпель, сп. Масей Сяднёў і д-р Вітаўт Кіпель. Гэтая першая навуковая канфэрэнцыя скліканая таварыствам «Бацькаўшчына» адзначалася шырынёй тэматыкі ды выдатнай рэпрэзэнтацыяй. У канфэрэнцыі прынялі таксама ўдзел сп-ня Алеся Кіпель (ЗША), сп. Янка Жучка (Бэльгія), сп. Мікола Ганько (Канада), сп. Міхась Белямук (ЗША), сп. Васіль Мельяновіч (ЗША), сп-ня Ларыса Урбан (Нямеччына) ды сп. Мікола Прускі (ЗША).

**14-15 чэрвеня** ў Менску адбывалася Міжнародная навуковая канфэрэнцыя *«Беларуска-Амэрыканскія гістарычна-культурные ўзаемадачыненьні: традыцыі, сучасны стан, пэрспэктывы»*. Гэтую канфэрэнцыю арганізавалі Беларускі гуманітарны адукацыйна-культурны цэнтр, Беларускі Інстытут Навукі й Мастацтва (ЗША), Нацыянальны навукова-асьветны цэнтр імя Ф. Скарыны, Міжнародная Асацыяцыя Беларусістаў і Згуртаваньне прадпрымальнікаў Беларусі. Як адзначалі ў прэсавых інтэрвію арганізатары канфэрэнцыі, хоць гэтая канфэрэнцыя і не названая *першая*, але арганізатары плянуюць праводзіць гэткія канфэрэнцыі пэрыядычна. Канфэрэнцыя была надзвычай удалай. Было зачытана панад 50 дакладаў у двух сэкцыях: гістарычнай, філалагічнай-мастацкай-літаратурнай-гаспадарчай. Адзначаліся даклады арыгінальнымі, новымі пошукамі дасьледваньнямі ды глыбінёй дасьледваньняў.

Адчынялі канфэрэнцыю ўступнымі словамі: д-р Адам Мальдзіс, часовы паверан ЗША ў Беларусі Джордж Крол, прадстаўнік міністэрства культуры і друку Рэспублікі Беларусь Генадзь Бураўкін, прадстаўнікі парлямэнту рэспублікі Алег Трусаў і Валенцін Голубеў, ляўрэаты Міжнародных прэміяў ЮНЭСКО — Алесь Разанаў і Сяргей Панізьнік, Міністр Замежных Справаў Беларусі — Пётра Краўчанка ды старшыня БІНіму – др. Вітаўт Кіпель.

З амэрыканскага боку былі зробленыя гэткія даклады: сп-чня Алеся Кіпель – *Амэрыканская Дапамога Беларусі ў праграме »АРА»*, сп-ня Зора Кіпель – *Амэрыкана ў творах беларуска-амэрыканскіх пісьменьнікаў*, д-р Ян Запруднік – *Новая англамоўная беларусіка*, д-р Вітаўт Кіпель – *Калекцыі і архіўныя матар'ялы па беларусіцы ў амэрыканскіх бібліятэках і дасьледных установах.*

У працах круглых сталоў канфэрэнцыі бралі ўдзел таксама сп.сп. Васіль Мельяновіч, Міхась Белямук, Мікола Ганько ды госьці амэрыканцы.

Беларуска-амэрыканская канфэрэнцыя — выдатны, хоць на дзесяцігоддзі спозьнены пачын, бо з усяе беларускае дыяспары, амэрыканскія беларусы, здолелелі ўтрымаць і сувязь зь Беларусьсю ды зацікавіць масу амэрыканцаў-беларусаў краінай сваёго паходжаньня. Відавочна, канфэрэнцыі гэткія будуць спрыяць адраджэньню беларускае спадчыны ў Амэрыцы ды улучэньню здабыткаў амэрыканскіх беларусаў у развьвіцьцё беларускае нацыі.

**19-га чэрвеня** ў Карэлічах, каля Наваградку праходзілі чародныя Карэліцкія Чытаньні — гадавыя даклады па гісторыі і культуры Беларусі.

У працах канфэрэнцыі браў удзел д-р Ян Запруднік, ураджэнец Міра, Наваградчына.

Апрача гэтых фармальных канфэрэнцыяў прадстаўнікі далёкае дыяспары удзельнічалі ў дзесятках працоўных сустрэчаў у розных інстытутах, бібліятэках да грамадзка-палітычных арганізацыях як у Менску, гэтак і на правінцыі.

### «БЕЛАРУСУ» У БЕЛАРУСІ – АДЗІН ГОД



*Зьлева-направа: Я. Жучка, В. Багдановіч, Зора Кіпель, Алеся Кіпель, В. Кіпель, Я. Запруднік, В. Мельяновіч*

Ужо год як незалежная беларуская выдавецкая кампания «Тэхналогія» выпускае ў сьвет амэрыканскага «Беларуса».

«Беларус» набывае на Беларусі ўсё большую папулярнасьць: расьце ягоны наклад, што рэалізуецца праз кіёскі Таварыства Беларускай Мовы ў Менску; газета трапляе і ў «глыбінку», атрымоўваць яе многія бібліятэкі, а таксама – нашыя землякі ў Вільні й Беластоку.

18-га чэрвеня, карыстаючы з пабыту ў Менску, некалькі сяброў рэдкалегіі газэты «Беларус», кампанія «Тэхналогія» мясцовыя й замежныя госьці адзначылі скромнай імпрэзай угодкі выхаду «газэты беларусаў у вольным сьвеце» на Бацькаўшчыне ды абмяняліся паглядамі на магчымасьці іншых супольных выданьняў у будучыні.

### АД АДМІНІСТРАЦЫІ І РЭДАКЦЫІ

Друкаваньне нашай газэты ў Беларусі зьвязанае з пэўнымі дататковымі выдаткамі: рабленьне адмысловага клішэ, перасылкі яго і друку газэты ў Менску.

Заклікаем нашых чытачоў прысылаць ахвяраваньні на друкаваньне «Беларуса» ў Беларусі. Традыцыя ўжо запачаткаваная — просім падтрымаць.

## АДРАДЖЭНЬНЕ — ПРАЗ ПРЫВАТНЫ БІЗНЭС

Ня гледзячы на вялікія цяжкасьці, перш за ўсе з-за адсутнасьці разумнай й зацікаўленай дзяржаўнай палітыкі, на Беларусі ўжо павялічваецца колькасьць літаратуры на роднай мове. Не малую роль ў гэтым адыгрываюць пакуль што вельмі нешматлікія прыватныя нацыянальныя выдавецтвы. Адно зь іх — кампанія «Тэхналогія».

Ужо больш году «Тэхналогія» выдае на Беларусі вядомы ў сьвеце англамоўны часапіс аб нашай рэспубліцы «БЕЛАРУСКІ АГЛЯД» і газэту нашае эміграцыі «Беларус». У яшчэ адным сваім выданьні – газэце «Добры дзень» мы расказваем аб дзейнасьці апазыцыі БНФ у Вярхоўным Савеце. За кароткі час незалежнае прыватнае выдавецтва «Тэхналогія» выпусціла ў сьвет вельмі неабходныя зараз для навучаньня слоўнікі — «Расейска-Беларускі хімічны», «Расейска-Беларускі фізыялагічны», «Расейска-Беларускі вайсковы», рэлігійную працу «Будслаў – сьвятыня Беларусі».

На прыканцы мінулага году з друкарні выйшлі «АНГЕЛЬСКА-БЕЛАРУСКІ» і «БЕЛАРУСКА-АНГЕЛЬСКІ» слоўнікі Яна Пятроўскага з Флярыды, першая кніга таленавітага маладога беларускага паэта і барда Анатоля Кудласевіча «Плакун-трава», зборнік «Беларускай бардаўскай песьні». У кніжных крамах Менску й Беларусі зьявіліся новыя кнігі кампаніі: «Менск: адміністратыўны, гістарычны, палітычны і эканамічны бізнес-гід» Гая Пікарды (на ангельскай мове), фундаментальная праца лідэра БНФ Зянона Пазьняка «Курапаты» (больш за 300 старонак, багата ілюстраваная на беларускай і ангельскай мовах) і кніга групы супрацоўнікаў цэнтру Дж. Картэра «Тэлебачаньне і выбары».

У бліжэйшых плянах прыватнага выдавецтва — «Беларуска-Француская слоўнік» былога рэктара беларускага душпастырства ў Парыжы айца Льва Гарошкі ды сэрыя брашураў «Беларусь — краіна спрыяльных магчымасьцяў» на ангельскай, нямецкай і францускай мовах.

Кампанія «Тэхналогія» зацікаўленая у распаўсюджваньні свай літаратуры за мяжой і сумеснай дзейнасьці ў галіне выдавецкай справы. Мы маем добрыя магчымасьці, дасьведчаньне і гатовыя выдаваць на бацькаўшчыне творы літаратараў замежжа, а таксама мэмуары, навуковыя працы і іншую літаратуру, інтарэс да якой у апошні час значна вырас. З зацікаўленасьцю таксама разгледзім прапановы аб набыцьці невялікай (магчыма і ўжыванай) друкарні.

Будзем сардэчна рады ўсім Вашым перадам, крытычным заўвагам, дапамозе і проста шчыраму роднаму слову!

**Вацлаў Багдановіч,**
**Прэзыдэнт выдавецтва «Тэхналогія»**

### АДЗНАЧЭНЬНЕ БЕЛАРУСКІХ ДАСЬЛЕДЧЫКАЎ НА БАЦЬКАЎШЧЫНЕ

Ганаровымі Граматамі Усебеларускага Жаночага Фонду Эўфрасіньні Полацкай за садзейнічаньне развіцьцю культуры, навукі, хрысьціянскіх традыцыяў дзеля духоўнага адраджэньня беларускай нацыі і яднаньня народаў узнагароджаныя: спадарыня Зора Кіпель, д-р Ян Запруднік і д-р Вітаўт Кіпель.

* * *

У знак прызнаньня заслугаў у справу захаваньня Беларушчыны, ды цэнячы клопат і руплівасьць у пашырэньні ведаў пра Беларусь на захадзе ды ў сьвеце наагул, Беларускі ПЭН-цэнтар прызнае сваімі паўнамоцнымі сябрамі д-ра Вітаўта Кіпеля і д-ра Яна Запрудніка.

# «О, БЕЛАРУСЬ, МАЯ ШЫПШЫНА

## (Уражаньні з падарожжа)

Мінулага году я была на першым Зьезьдзе Беларусаў Сьвету ў Менску. Першы раз у жыцьці пабачыла я Беларусь і пачулася, што ўрэшце прыехала дамоў. Ведаючы, як беларускі народ і беларускія землі выкарыстоўваліся саветамі, я ўяўляла сабе, што там усё будзе шэрае. Праўда, было шэрага шмат. Нават зашмат расейскага й савецкага ў «незалежнай» Беларусі. Некалькі разоў бачыла помнікі Леніна на вуліцах. Сэрца балела й злосьць брала глядзець на вялізарную яму ў сярэдзіне Менску. Як мне расказвалі, там стаяў калісь прыгожы гістарычны будынак. 20 гадоў таму назад разбурылі яго й так пакінулі яму. Колькі такіх манумэнтаў нашае гісторыі разбурылі, каб на іх мейсцы пабудаваць высокія й ані прыгожыя, ані важныя будынкі.

Выгоды да якіх мы тут прывыклі, амаль што не існуюць. Аднак я бачыла пэрлы элегантнасьці й высокага мастацтва, прыкладам Музэй Максіма Багдановіча ў Менску. Там усё, пачынаючы ад афармленьня сьцен, вокан, мэбляў, да арганізацыі і разьмяшчэньня экспанатаў, было найвышэйшай якасьці. Там кожная дэталь, кожны куточак, кожная рамка вельмі дакладна абдумана й выканана на высокім мастацкім узроўні ў чыста беларускім стылі. У гэтым цудоўным музэі я адчула багацьце культуры й моц нацыянальнага духу ў Беларусі.

У мяне было такое ўражаньне, што ўсе хто гаварыў да мяне у Беларусі, былі маімі роднымі. Мне сумна сказаць, што ня ўся мая сапраўдная радня гаварыла па-беларуску. На вуліцах беларускую мову я рэдка чула, але раз прыпадкова ў кафэ пазнаёмілі мяне з маладым дырэктарам таго-ж самага цудоўнага Музэю Максіма Багдановіча, і ягоныя першыя словы да мяне былі: «Скажэце вашай маме, што я ўжо прыняў ейную граматыку. І гэта не адзіны раз калі нехта з маладых штосьць падобнае мне сказаў. Я была захоплена, што мамінай працай карыстаюцца ў Беларусі, але ведала таксама, што гэта быў сумны доказ таго, што ў Беларусі ў школах вучаць толькі зрусыфікаваную вэрсыю нашае мовы.

Я мела гонар спаткаць шмат выдатных людзей, якія былі абсалютна адданыя ідэі незалежнасьці Беларусі. У сэрцы цешылася й зразумела, чаму мае бацькі й іншыя так былі адданыя й бязконца займаліся беларускімі справамі й уцягвалі ў беларускае жыцьцё сваіх дзяцей. Тады мне часам здавалася, чаму мы гэтым усім займаемся й перажываемся, калі ў Беларусі ніхто ня дбае, па-расейску гавораць, паддаліся зусім і нічога не мяняюць. Аднак паслухаўшы некалькі трагічных сямейных гісторыяў, пабыўшы пры Крыжы Пакутнікаў у Курапатах, я добра зразумела, чаму так доўга нічога не мянялася. Я веру, што наша думкі, малітвы й стараньні нейкім спосабам далі духовую падтрымку тым, каторыя адважыліся змагацца за свае правы, сваю мову й за свой народ.

Падарожжы па Беларусі прынесьлі мне найбольш задавальненьня. На дарогах ня было шмат аўтаў, але па баках іх часта стаялі папсутыя. Газалінавых станцыяў амаль што няма, а дзе й ёсьць, трэба стаяць у чарзе, часам гадзінамі, каб дастаць вельмі дарагі газ (так там называюць газаліну). Ня дзіва, што час ад часу спатыкаліся вазы й коні. Я мела такое ўражаньне, што тут час спыніўся 50 гадоў таму. Пачуцьцё было рамантычнае, быццам у фільме.

Я раней не ўяўляла, што Беларусь такая прыгожая. Краявіды лагодныя й спакойныя. Дзеравянныя хаткі акуратна прыбраныя й памаляваныя вясёлымі колерамі. У некаторых вёсках сярод садкоў, быццам зусім прыпадкова, стаяць руіны замкаў нашых даўнейшых князёў. Паміж руінаў замку пасьвяцца козачкі, авечкі. Апрача нас нікога няма. Выглядае, ніхто ня цікавіцца, толькі ведаюць, што пасьля вайны на пляцы збудавалі будкі, каб людзі мелі дзе жыць. У Мірскім замку адбываецца паважная рэстаўрацыі яго. Аказваецца арганізацыя Задзіночаных Нацыяў UNICEF абвесьціла гэты замак гістарычным помнікам сусьветнае вартасьці. Пакрывае кошты рэстаўрацыі і стварэньня ў замку музэю.

Аднак найбольш нашых гістарычных скарбаў пабачыла я выехаўшы з Рэспублікі Беларусь — у Вільні. Там была зусім іншая атмасфэра чымся ў Менску. Адчуваўся старажытны дух. Вежы, касьцёлы, цэрквы, унівэрсытэт (у якім мая мама й цётка вучыліся), сымпатычныя вулічкі захаваліся. У гэтым гістарычным горадзе відаць прагрэс. Былі цікавыя крамы, кафэ — уладжаныя з пачуцьцём эстэтыкі, была ветлівая, дбайлівая абслуга. Відно было, што гэты народ ня быў так моцна й доўга пад пальцам саветаў. Там усе гаварылі па-літувіску. Я была ўдзячная, што хаця там захаваліся нашыя гістарычныя скарбы, але чулася абрабленая, на-першае саветамі што, яны проста аддалі нашую сталіцу, а падругое летувісамі, бо яны цяпер вельмі пільна старающца сьцерці кожны сьлед ўсяго беларускага й перапрацоўваюць у сваё.

Чым я была найбольш заскочаная — гэта прыродай Беларусі. Узноў я чакала бачыць усё шэрае, шэрую спаленую пасьлдя Чарнобылю, пустыню. А тут я апынулася ў раі. Пры дарогах растуць мае любімыя кветкі — лупіны, шыпшына, мак, васількі. Сасновыя лясы, роўныя, чыстыя, ня зрэзаныя. Пахучыя ліпы ўсюды. Амаль пры кожнай хаце густа засаджаны гарод гароднінай і фруктовымі дрэвамі, каб было што есьці, і кветкамі. Кветкі пышныя растуць у пояс і вышэй, а маліны вялікія, як сьлівкі, сапраўдны рай! Ну, але я ня была ў тым раёне каля Чарнобыля, дзе няма птушак і дзе, калі ідзе дождж, палаць усю гародніну, якую людзі яшчэ пробуюць расьціць, — тыя людзі, што даўно мусілі-бы быць эвакуаваныя. Аказваецца, што фэнамэн вялізарных малінаў і буйных кветак таксама вынік радыяцыі.

На кожным кроку я адчувала дваякія пачуцьці. У адзін мамэнт надзею, радасьць, любоў, хваляваньні, спакой, а ў другі — сум і роспач, непакой за будучыню беларускага народу. Усе мае думкі вярталіся да аднаго: ці гэтыя мілыя, часам хворыя, дзеткі, што называюць мяне цёцяй Эвай, вырастуць здаровымі дарослымі? А як маладыя пары асьмельваюцца мець дзяцей? А які страх для іншых, якія маюць дзяцей? А чым карміць гэтых дзетак? Як нашая, надзвычай прыгожая, зямля вытрывае радыяцыю? Бяз конца прыходзілі ў галаву песьня:

О, Беларусь, мая шыпшына
Зялёны ліст, чырвоны цьвет,
У віхры дзікім не загінеш
Чарнобылем не зарасьцеш.

Уладзімер Дубоўка даўно напісаў гэтыя словы, быццам нешта вычуваў, прачуваў бяду й пакінуў нам надзею, што Беларусь выжыве, пераможе ўсе свае цяжкасьці. Нам трэба ў гэта верыць.

Вынікам усіх маіх уражаньняў стварыўся ў мяне канцэпт ***«Праэкту Шыпшына»***, аб якім далей пішу. Пачатковыя кошты яго, паводля пляну, будуць не малыя, але веру, што праект прынясе шмат карысьці й надзеі нашым беларускім дзеткам — нашай будучыні.

**Эва Пашкевіч**

---

**ЗГУРТАВАНЬНЕ БЕЛАРУСАЎ КАНАДЫ**

**БЕЛАРУСКА-АМЭРЫКАНСКАЕ ЗАДЗІНОЧАНЬНЕ**
**запрашаюць беларускае грамадзтва на**

## 21-Ю СУСТРЭЧУ БЕЛАРУСАЎ ПАЎНОЧНАЙ АМЭРЫКІ,

**якая адбудецца сёлета ў Labor Day Weekend**
**3-5 верасьня ў ТОРОНТО, Канада**

**ТЭМА СУСТРЭЧЫ**

***Сучаснае палажэньне ў Беларусі і***

**Роля Беларусаў Канады і ЗША ў беларускім нацыянальна-палітычным працэсе:**

*Курапаты — Беларускі Голокост.*
*Накіраваньне усіх нашых сілаў у адно русла.*
*Узаемдзеяньне паміж старэйшым і малодшым пакаленьньнем.*
*Чарнобыльская трагэдыя і бяда Беларусі.*
*Наш уплыў на ўрады Канады і ЗША у адносінах дапамогі Беларусі.*

**ПРАГРАМА СУСТРЭЧЫ:**

**Субота 3-га верасьня:**

**гадз. 2 па паўдні — *АДКРЫЦЬЦЁ СУСТРЭЧЫ***
*Беларускі Рэлігійна-Грамадзкі Цэнтар*
*524 St. Clarens Ave., Toronto*

**гадз. 2.30 па паўдні — *ПРАЦОЎНЫЯ СЭСІІ***

**гадз. 8.30 вечара - *БАЛЬ СУСТРЭЧЫ***
*TRIUMPH HOWARD JOHNSON PLAZA HOTEL*
*2737 Keele Street, Toronto, Ont. Tel. 416-636-4656*

**Нядзеля 4-га верасьня:**

**гадз. 9.30 - БАГАСЛУЖБА**

**гадз. 12.30 - АБЕД У БРГЦ**

**гадз. 3 па паўдні — УРАЧЫСТЫ СХОД СУСТРЭЧЫ І КАНЦЭРТ**
*TRIUMPH HOWARDJOHNSON PLAZA HOTEL*
*2737 Keele Street, Toronto, Ont. Tel. 416-636-4656*

**гадз. 8 вечара — *СЯБРОЎСКІ ВЕЧАР***
**Беларускі Рэлігійна-Грамадзкі Цэнтар**
*524 St. Clarens Ave., Toronto, Ont.*

Арганізатары Сустрэчы просяць удзельнікаў своечасова паведаміць пра намер удзелу ў Сустрэчы дзеля забясьпечаньня мейса начлегу.

Па інфармацыі просім зьвяртацца: in Cleveland – J. Chanienka (216) 781-7231; in New York – A. Mickievich (212) 271-8015; in Highland Park – New Brunswick – J. Azarko (908) 545-6654; in Toronto – A. Maksimiuk (416) 769-3650; in Montreal – A. Chrenowski (514) 973-1639; in Ottawa – J. Survilla (819) 770-2783; in Chicago – Dr. V. Ramuk (312) 745-8916.

---

# PROJECT SHYPSHYNA

*PURPOSE:*

The purpose of this project is to raise money to assist the children in Belarus who are victims of the Chernobyl disaster and to promote public awareness of the critical situation in Belarus.

*PROJECT STRATEGY*:

Straw crafts will be purchased in Belarus and sold in Canada and the United States of America. The intention is to create a network starting with members of Belarusan communities and extending out to their friends and communities and so on. The product will be sold in various ways which do not require extensive overheads, i.e. at church and community centers, clubs, schools, home parties, etc. The first shipment of stock is targeted to be available by September in time for Christmas gift shopping.

Information regarding the urgent need for medical supplies, detoxification programs and appropriate treatment for the children will be available where ever the crafts are sold. We can expect that projects will evolve as awareness grows.

The art form of straw sculpture was chosen because it is unique and has universal appeal. It is an art from which vibrant life and spirit and will be positive symbol for our cause. This project will not only assist the children, but will also support the artists and workers producing the crafts thus, contributing to the economy of Belarus.

*HOW CAN YOU HELP:*

Donations are required to cover the initial expenses of the project. When the first phase is successfully completed, the project will sustain itself. It should be noted that any donations made to the project will multiply many times over.

*WHO TO CONTACT:*

**Eva Pashkievich-McCarvill**
Box 3352 Anahim Lake,
B.C., VOL 1CO Canada
Tel. (604) 742-3477

Please send donations to **Project Shypshyna** at the above address.

 



## УШАНАВАНЬНЕ 70-ГОДЗЬДЗЯ ВАСІЛЯ БЫКАВА



*Каравай Юбіляру Васілю Быкаву*

19-га чэрвеня сёлета выдатнаму беларускаму пісьменьніку й грамадзкаму дзеячу, пашыральніку дэмакратычных ідэяў і незалежнасьці беларускае дзяржаўнасьці, Васілю Быкаву споўнілася 70 гадоў. Прагрэсыўнае дэмакратычнае грамадзтва як на Бацькаўшчыне, гэтак і ў шырокім сьвеце адзначала юбілейную дату ды выказвала сваю пашану слаўнаму сыну нашага народу, найвыдатнейшаму майстру слова, прызнанаму аўтарытэту беларускае літаратуры ў сьвеце.

У нядзелю, 19-га чэрвеня ў сталіцы Беларусі–Менску, у сквэры імя Янкі Купалы а гадзіне 12-й, упоўдзень, адбылося ўшанаваньне юбіляра сталічным грамадзтвам.

З прывітальнымі словамі й прамовамі выступілі сп.сп. Зянон Пазьняк, Радзім Гарэцкі, Рыгор Барадулін, Ніл Гілевіч, Адам Мальдзіс. Вітаўт Кіпель прывітаў Васіля Быкава ад БІНІМу і БАЗА.

Вечарам таго-ж дня ў памешканьні галоўнае кватэры Беларускага Народнага Фронту адбылася сустрэча юбіляра з грамадзка-палітычным актывам. Гэтым разам В. Быкава віталі дзесяткі прадстаўнікоў арганізацыяў рэспублікі а таксама прадстаўнікі беларускае дыяспары: д-р Ян Запруднік, сп. Мікола Ганько, д-р Вітаўт Кіпель, сп-ня Зора Кіпель ды сп-ня Ларыса Урбан.

## ЮБІЛЕЙ МІКОЛЫ ГАНЬКА

З нагоды 70-х угодкаў жыцьця сп. Міколы Ганька, старшыні Згуртаваньня Беларусаў Канады, 14 травеня ў Беларускім Рэлігійна-Грамадзкім Цэнтры ў Таронта адбылося шматлюднае сьвяткаваньне. Пачалося яно малебнам у царкве на інтэнцыю юбіляра, адпраўленым Мітрапалітам БАПЦ Уладыкам Мікалаем. Пасьля багаслужбы Уладыка Мікалай сказаў цёплую казань, падкрэсьліў ахвярную й сталую, на працягу сарака гадоў, службу Міколы Ганька для БАПЦ ў Канадзе (прыход БАПЦ ў Канадзе заіснаваў у 1954 г.), ды ўручыў яму за заслугі Пахвальную Грамату.

У сьвяточна прыстроенай залі Цэнтру адбылася застольная бяседа. Кіраваў ёю сябра й шматгадовы супрацоўнік юбіляра сп. Валянтын Навіцкі. Вітаў юбіляра й жадаў яму доўгага й шчасьлівага жыцьця ад Царкоўнай Рады старшыня яе сп. Аляксандар Ніканові́ч. Др. Раіса Жук-Грышкевіч, старшыня Каардынацыйнага Камітэту Беларусаў Канады ў сваім прывітаньні падкрэсьліла сталую, ад пачатку існаваньня беларускай нацыянальнай арганізацыі ў Канадзе, грамадзкую дзейнасьць Міколы Ганька. Ужо на 2-м Зьезьдзе ЗБК, Міколы Ганько фігураваў, як старшыня Мандатнай Камісіі, сябра Прэзыдыюму Зьезду й быў выбраны ў сябры Галоўнай Управы ЗБК. Ад таго часу ён заўсёды займаў тую, ці іншую пасаду ў ЗБК ды іншых беларускіх арганізацыях, прыкладам у канцы шэсьцьдзесятых і пачатку семдзесятых, праз дзесяць гадоў быў на вельмі адказным становішчы скарбніка Беларускае Пазычковае Касы – Byelorussian (Toronto) Credit Union Ltd. Нарэшце, і самае важнае, Мікола Ганько, блізу сорак гадоў ёсьць сябрам Рады Беларускае Народнае Рэспублікі, а апошнімі гадамі й старшынёй Канадзкага Сэктару Рады БНР. Побач яго заўсёды стаіць й зь ім супрацоўнічае ягонае сужонка Марыя. Зь цёплым прывітаньнем і сардэчнымі пажаданьнямі выступіла сваячка Ганькоў сп-ня Лын Кулеш. Як падарак, яна ўручыла юбіляру чэк на сто даляраў на дабрачынную мэту выбру самога юбіляра. Мікола Ганько прызначыў гэты, як і іншыя падарункі, на газэту «Беларус».

Сябра Галоўнай Управы сп. Арсень Монід пачаў сваё прывітаньне й найлепшыя пажаданьні юбіляру ўспамінаючы дзейнасьць яго яшчэ ў Саюзе Беларускае Моладзі ў Беларусі. Віталі юбіляра мужчыны, віталі жанчыны. Усе ўслаўлялі ягоныя заслугі, усе жадалі яму далейшай плённай працы й доўгага, шчасьлівага жыцьця. Ды наймілейшым было прывітаньне ад сп-ні Каці Аўсовіч, прадстаўнічкі, як яна выразілася «маладое эміграцыі». Яна ўсхвальвала ветласьць й дапамогу Ганькоў, ды ўсяго Беларускага Рэлігійна-Грамадзкага Цэнтру ў Таронта, новапрыбылым у Канаду беларусам.

Заступнік Старшыні Рады БНР др. Барыс Рагуля й заступнік старшыні Галоўнай Управы ЗБК сп. Віктар Касьцюкевіч прыслалі пісьмовыя прывітаньні.

Спадарыня Марыя Ганько дзякавала ўсім, што сваёй прысутнасьцяй ды малітвай ушанавалі юбілей яе мужа, дзякавала сп. В. Навіцкаму за кіраваньне імпрэзай, прамоўцам за прывітаньні і пажаданьні. Дзякавала прыяцелькам-жанчынам, без дапамогі якіх ёй немагчыма было-б прыгатаваць такое багатае застольле.

Нарэшце прамаўляў і дзякаваў усім сам юбіляр. Ён, між іншага, сказаў, што ягоная вера ў Бога і ў Беларусь пры розных фізычных недамаганьнях заўсёды дадавала яму сілы да жыцьця й да дзеяньня.

Інсьпіраваны прыкладам сп-ні Лын Кулеш, сп. Аляксандар Ніканові́ч правёў з асысатай сп. Прахарука сярод прысутных зборку на газэту «Беларус». Усяго, разам з асабістымі падаркамі юбіляру, сабралося каля 900.00 даляраў. Палову гэтага юбіляр прызначыў на «Беларуса», і палову на «Беларускі Агляд» – "Belarusian Review". Сьвята закончылася агульнымі танцамі пад музыку добрае аркестры.

На другі дзень, у нядзелю, пасьля Сьв. Літургіі, адпраўленай айцом Міраславам, спадарыня Ганько запрасіла йзноў усіх прысутных за накрыты стол. У сяброўскай гутарцы яна, між іншага, сказала: «Во, як добра, што маем свой дом, сваю залю!». А аб гэтым турбаваўся ўжо ў травені 1949 году першы Зьезд ЗБК, калі аднагалосна пастанавіў купіць «свой собскі Беларускі Дом у Таронта». У 1954 годзе пастанова гэта была зьдзейсьненая. Правільна думала й дзеіла ад самога пачатку беларуская нацыянальная, тады маладая, эміграцыя.

**Раіса Жук-Грышкевіч**

---

**Д-ра Вітаўта Рамука**
*вітаюць*
Рэдкалегія Беларуса, Управа БАЗА й Управа БІНІМу
з 80-і годзьдзем ад дня нараджэньня
ды жадаюць шмат год плённае грамадзкае працы ды
шчасьця ў сямейным жыцьці.

---

**Ліст у Рэдакцыю**

## БЕЛАРУСАВЕДНАЯ ЛІТАРАТУРА Ў ПОЛЬШЧЫ

Паважаная Рэдакцыя!

З зацікаўленьнем прачытаў у апошнім нумары «Беларуса» рэцэнзію на кніжку др. Аўгена Міpановіча. Ведаю яго ўжо колькі гадоў і цаню як сумленнага, здольнага і працавітага дасьледніка, дык быў усьцешаны дадатнай ацэнай ягонае кніжкі, якая напісаная на аснове доктарскае дысэртацыі.

Аўтар рэцэнзіі зьвяртае пры нагодзе ўвагу на пашыраны польскай кампартыяй міт пра этнічную аднароднасьць грамадзтва Польшчы, які адмоўна адбіўся на сытуацыі нацыянальных меншыняў. Ёсьць у гэтым пэўная спрошчанасьць, бо быў час, калі па сьмерці Сталіна некаторыя палітыкі з тае-ж кампартыі рабілі спробу паправіць сытуацыю меншыняў, але трывала гэта коратка, а ад 1968 г. верх узяла нацыяналістычная плынь.

Думаю аднак, варта падкрэсліць, што афіцыйнай тэзе пра «этнічнае адзінства» супрацьставіліся інтэлектуальныя асяродкі як польскія, гэтак і сярод нацыянальных меншыняў. Ацэну колькасьці нацыянальных меншыняў апублікаваў ужо ў 1963 г. праф. Анджэй Квілецкі. У 1970-х гадох праблематыка нацыянальных меншыняў трапляла на старонкі некаторых польскіх пэрыёдыкаў (асабліва «Палітыка», «Тыгодніка Повшэхнага», «Веньзь»), зьяўляліся – хоць спарадычна – кніжкі публіцыстаў (пісаў аб гэтых праблемах, між іншых, Ежы Лёвэль). Гэта праўда, што аўтары напатыкаліся на перашкоды (сам быў у 1981 г., пасьля апублікаваньня ў «Палітыцы» артыкулу пра сытуацыю беларусаў, аб'ектам зацікаўленьня – на шчасьце, ня вельмі дакучлівага – органаў бясьпекі), але зацікаўлены чытач мог даведацца пра фальшывасьць «афіцыйнай» тэорыі этнічнага адзінства.

Пасьля 1980 г. сытуацыя значна зьмянілася. Польскі чытач атрымаў, між іншага, варастную кніжку Сакрата Яновіча, у часапісах зьявілася больш розных артыкулаў, пайшла палеміка, а ў 1991 г. – зь ініцыятывы др. Ганны Радзівіл (тады заступніка міністра народнай адукацыі) – я напісаў брашуру аб нацыянальных меншынях Польшчы для ўжытку настаўнікаў. Цяпер праблемы гэтыя закранаюцца ў найнавейшых падручніках гісторыі для школаў (хоць, думаю, яшчэ ўсё ў надта сьціплым абсягу). Кніжка др. Міpановіча зьявілася ў выніку дасьледаваньняў, што маглі быць праведзеныя ў палітычным клімаце, які мяняецца.

Зьвяртаю ўвагу на гэтыя пытаньні, каб у чытачоў « Беларуса» не стварылася памылковае ўражаньне, што польскія чытачы былі зусім пазбаўленыя магчымасьцяў азнаёміцца з нацыянальнымі меншынямі.

**З пашанай**
**Ежы Тамашэўскі**

---

### *БЕЛАРУСКАЕ СПРАСТАВАНЬНЕ*

У польскай газэце "Gwiazda Polarna" за 28-га траўня сёлета зьмешчаны вельмі цікавы ліст Уладзімера Брылеўскага ў адказ на выдрукаваны у той-жа газэце, у лютым, артыкул Веслава Чэрмак-Навіны пад загалоўкам "Przyjaźń powinna być odwzajemniona". Сп. Брылеўскі падкрэсьлівае памылку аўтара вышэй успомненага артыкулу, што да тэрміналёгіі «Рэчпаспалітая двух народаў». Рэчпаспалітая складалася з двух дзяржаваў, — зазначае сп. Брылеўсакі, — а народаў было ня двя, а найменш чатыры: польскі, беларускі, украінскі й літоўскі.

Далей у лісьце сп. Брылеўскі дае зьвесткі аб удзеле беларускіх войскаў (40 харугвяў) у славутай Грунвальдскай біцьве, ды падкрэсьлівае, што удзел славяншчыны пад Грунвальдам быў вырашальным. Этнічных літоўцаў там было ня шмат, бо Жмудзь у той час была пад панаваньнем Крыжакоў.

### ПАДЗЯКА

З удзячнасьцяй адзначаем, што газэтныя выразкі і іншыя прэсавыя матар'ялы, якія ўзбагацілі зьмест «Беларуса», нам прыслалі сп.сп. Ю. Станкевіч, В. Брылеўскі, В. Багдановіч, Я. Сурвіла, Я. Арцюх, А. Зданковіч, Я. Найдзюк, В. Рамук, Ю. Кіпель.

 

# СЬВ. ПАМ. СЯРГЕЙ КАРНІЛОВІЧ



Нарадзіўся 4-га лістапада 1928 г. у вёсцы Таргуны, каля Докшыцаў, Віцебскай вобл. ад бацькоў Паўла і Ксені з роду Каралевіч. Акрамя Сяргея у сям'і было двух братоў Сава і Уладзімір і сястра Тацьцяна. За польскіх часоў бацькі мелі гаспадарку, Сяргей пачаў хадзіць у пачатковую школу й прадаўжаў навуку за часоў савецкай і нямецкай акупацыяў. Будучы яшчэ маладым, быў вывезены ў Нямеччыну на працу. Спачатку працаваў на фарме. Быў ранены ў нагу ў часе бамбардыроўкі і нейкі час быў у шпіталі.

Пасьля заканчэньня вайны не захацеў вяртацца на бацькаўшчыну. Перабраўся ў беларускі лягер у Рэгэнсбургу, ў амэрыканскай зоне, заходняй Нямеччыны. У гэтая часы Сяргей належаў да беларускіх арганізацыяў, царквы, скаўтынгу й закончыў 5 клясаў беларускай гімназіі імя Янкі Купалы.

У 1950 годзе зь Нямеччыны эміграваў у Злучаныя Штаты Амэрыкі й пасяліўся ў горадзе Кліўлендзе, у штаце Огаё, дзе пражыў на канца свайго жыцьця. Напачатку працаваў ў розных кампаніях, простым рабочым, а пазьней дастаў сталую працу ў малачарні, на больш прафэсыйную працу ў перапрацоўцы малака і малочных вырабаў: масла, сьмятаны й сыраў, дзе працаваў да 1983 году, калі пайшоў на пэнсыю.

Нямаючы закончанай сярэдняй асьветы, паступіў у амэрыканскую сярэднюю школу, вучыўся вечарамі й закончыў яе з добрым вынікам у 1963 г. На унівэрсытэт не пайшоў вучыцца, бо не меў матэрыяльных сродкаў.

Нябожчык Сяргей улажыў вялікую працу ў арганізацыйнае жыцьцё беларускай калёніі ў Кліўледзе. У Аддзеле Беларуска-Амэрыканскага Задзіночаньня быў 8 гадоў старшынём, некальki гадоў заступнікам і сакратаром, ладзіў нацыянальныя сьвяты, канцэрты, вечарыны, рэфэраты на розныя тэмы, рэпрэзантаваў беларусаў сярод іншых нацыянальнасьцяў ды ў амэрыканскіх установах.

У аддзеле Арганізацыі Беларуска-Амэрыканскае Моладзі пакойны Сяргей быў актыўны ад пачатку. Быў 4 гады старшынём, нелькі гадоў сакратаром, прымаў актыўны ўдзел у розных імпрэзах моладзі, належаў да мяшанага хору, працаваў у кіёску моладзі, дзе зьбіраліся й распаўсюджаваліся беларускія кніжкі, часпісы, газэты, кружэлкі выданыя на эміграцыі й ў Беларусі.

У парахвіі Жыровіцкае Божае Маці, Беларускае Аўтакефальнае Праваслаўная Царквы (БАПЦ) нябожчык Сяргей быў таксама вельмі актыўным. Быў 14 гадоў старшынём парахвіяльнае рады, ладзіў царкоўныя імпрэзы, добра каардынаваў й супрацоўнічаў зь іншымі арганізацыямі беларускае калёніі, з другімі цэрквамі й кансысторыяй БАПЦ.

Вялікую працу, бадай найбольшую, нябожчык Сяргей зрабіў у арганізацыі Беларуска-Амэрыканска Грамадзкага Цэнтру Полпцак. Перш за ўсё, ён спрычыніўся да заснаваньня гэтай арганізацыі, яго прапанова была назваць яе у гонар гістарычнага Полацку. Ён знайшоў места для Цэнтру, ды улажыў у яго шмат сваіх грошай. Быў старшынёю Цэнтру ад заснаваньня яго ў 1967 да 1991 году — 24 гады. За яго кадэнцыю старшынства, шмат што было зроблена на беларускім селішчы. Пачысцілі й пашырылі возера, дзе дзеці й старшыя купаліся цэлае лета. Пабудавалі летнія будынкі з заляю, сталовай й кухняю, дзе адбываліся кожнай нядзелі пікнікі. А пазьней пабудавалі вялікую залю на 320 асобаў — ён быў кіраўнікам будаўлянага камітэту.

Па-за арганізацыйным жыцьцём і працай калёніі, нябожчык Сяргей прабіў шмат іншай беларускае працы. Ён меў вялікую асабістую перапіску з рознымі арганізацыямі й дзеячамі на эміграцыі ды с многімі асобамі й мастацкімі групамі на Бацькаўшчыне. Моцна цікавіўся ўсёй беларускай прэсай — кніжкі, газэты, часапісы, што выходзілі на эміграцыі й у Беларусі, — якую ён выпісаваў, чытаў і распаўсюджваў. Ён быў адзін зь эмігрантаў, што добра ведаў беларускую літаратуру, пісьменьнікаў і быў усебакова самаадукаваны.

У сувязі з палітычнымі зьменамі на Беларусі, з праявамі незалежнасьці, Сяргей моцна захапіўся лёсам краіны і наведваў яе. У 1991 годзе ён зарганізаваў малую групу з 8 асобаў, якая наведала Беларусь. У 1992 г. другая паездка, больш афіцыйная — 32 асобы з мэдыкамэнтамі для ахвяраў чарнобыльскай катастрофы ды з жаночным хорам з Кліўленду. Апошняя паездка ў 1993 г. — 39 асобаў на Першы Зьезд Беларусаў Сьвету.

Сяргей з прыемнасьцю прыймаў гасьцей, што прыязджалі зь Беларусі, дапамагаў матэрыяльна, апекаваўся хлопчыкам Раманам, які прыехаў лячыцца ад чарнобыльскай радыяцыі.

Нябожчык працаваў да апошняга часу й памёр 29-га кастрычніка 1993 г. у сьне. Гэта была вялікая страта для беларускае калёніі, для родных і сваякоў ў Беларусі, для нашага нацыянальнага адраджэньня. Яго адыход ушанавалі сябры беларускае калёніі вельмі лічнай прысутнасьцю у царкве, на беларускай сэкцыі могільніку Рывэрсайд. Памінальны абед адбыўся ў залі грамадзкага цэнтру зь вялікай грамадой сяброў, знаемых ды прадстаўнікоў іншых асяродкаў: Нью-Ёрку й Нью-Джэрзі, Дэтройту, Таронта. Зь Беларусі былі прысутныя Міністр замежных спраў ды Амбасадар з Аб'еднаных Нацыяў. Артыстычныя групы ушанавалі нябожчыка жалобным канцэртам.

Сьпі спакоайна дарагі сябра й супрацоўнік на эміграцыі, змагар за нашу Бацькаўшчыну — Беларусь. Мы не пакінем Тваё працы й змаганьня. Хай Табе будзе лёгкая амэрыканская зямелька. Хай Табе сьняцца родныя палі Докшыцаў і прыгожыя краявіды Беларусі.

**У Рэдакцыю Газэты «Беларус»**

Пасьля разьдзелу маемасьці, паводле тэстамэнту адышоўшага Сяргея Карніловіча, асталіся грошы у суме 1,500 даляраў, і я хацеў бы прысьвяціць адзін нумар газэты ў яго памяць.

**З пашанай, Кастусь Калоша**

---

Сям'я на Беларусі, Галоўная Ўправа БАЗА, Аддзел БАЗА Нью-Ёрку й Беларускі Інстытут Навукі й Мастацтва з сумам паведамляюць, што 14-га ліпеня 1994 г. у мястэчку Сьв. Кацярыны ў Канадзе на 85-ым годзе жыцьця памёр

**ПЁТРА КОНЮХ**

ведамы беларускі сьпявак, які шырака рэпрэзэнтаваў і пашыраў беларускую песьню ў Амэрыцы і Эўропе.
Пахаваны с.п. П. Конюх на Беларускім Магільніку ў Іст Брансувіку, у штаце Нью Джэрзі.

---

*ЛІСТ У РЭДАКЦЫЮ*

Гісторык Паўла Урбан у працягу свайго цікавага гістарычнага нарысу «Да пытаньня этнічнай прыналежнасьці старажытных ліцьвіноў», зьмешчным ў 2 (22) нумары «Полацку», чамусьці называе нашу чароўную прыгажуню – раку *Вяльлю «Вільлёй» («Вілiёй»)*, а горад ***Вялейку*** над *Вяльлёй – «Вілейкай»*. Жыхары ня толькі блізнік, але й далейшых ад яе (ракі) вёсак называюць яе ***Вяльлёй***, а ня *«Вільлёй» («Вілiёй»)*. *Вяльля* й *Вілія* – гэта чужыя, польская й расейская, назвы нашай ***Вяльлі.***

Адзін зь вершаў Янкі Купалы пачынаецца гэтак: «Над ракой Вяльлёй туман сьцелецца...». Сьвятаслаў Коўш у сваёай прыгожай «Русальчынай бальлядзе» піша: «Паміж пяшчаных берагоў плыве Вяльля, плыве сягоньня, як плыла гадоў шмат тысячаў назад».

Ды ці толькі назву ракі Вяльлі й гораду Вялейкі нашы суседзі – палякі й расейцы – перайначылі на свой лад. Наш старадаўны Менск палякі ў адрозьненьне ад свайго Мінска Мазавецкага пачалі называць Мінскам Літоўскім. Гэту назву пераняла царская Расея, але ўжо бяз прыметніка «Літоўскі». І так Менск стаў Мінскам з перапынкам (1918-1939) аж да сёньняшняга дня. Тое самае сталася зь іншымі беларускімі гарадамі й мястэчкамі. Навагрудак стаў Навагрудкам, Берасьце – Брэстам, Ашмяна – Ашмянамі, Маладэчна – Маладзечнам і т.п.. Даўно ўжо пара афіцыйна вярнуць ім беларускія гістарычныя назвы.

**Уладзімер Брылеўскі**

## ХРОНІКА

*Сыдней, Аўстралія*

Сьвяткаваньне Дзяржаўнасьці Беларусі адзначалася ў Сыднэі 27-га сакавіка сёлета. Пасьля багаслужбы быў адслужаны малебен за беларускі народ. Акадэмія адбылася ў залі Беларускага Культурна-Грамадзкага Клюбу, якую адкрыў М. Лужынскі, старшыня Клюбу, зьмястоўным аналізам падзеяў, што прывялі да Акту 25-га Сакавіка. Кароткі даклад на тэму дня зрабіла сп-ня Галя Базыленка, журналістка сь Менску.

На акадэміі была сабрана 780 аўстралійскіх даляраў на дапамошу БНФ. Да Сыднэйцаў далучыліся беларусы Пэрту прыслаўшы 315 даляраў.

Наступная падзея ў Клюбе адбылася 26-га чэрвеня — 50 угодкі Другога Усебеларускага Кангрэсу ды разьвітаньня з Бацькаўшчынай.

---

## АД РЭДАКЦЫІ Й АДМІНІСТРАЦЫІ ГАЗЭТЫ «БЕЛАРУС»

Згодна з жаданьнем Кастуся Калошы, выканаўца тэстамэнту Сяргея Карніловіча, гэты 414-ы нумар газэты «Беларус» прысьвечаецца памяці Сяргея Карніловіча, даўгагадовага нашага чытача, ахвярнага супрацоўніка й шчырага сябра.

Шчыра дзякуем Кастусю Калошу за ахвяраваньне, разумнае й справядлівае выкананьне тэстамэнту й жаданьняў сьв. памяці Сяргея Карніловіча.

---

## НА ВЫДАВЕЦКІ ФОНД «БЕЛАРУСА»

*Ад нашага прадстаўніка сп. Б. Даніловіча:*

| | |
|---|---|
| М. Ганько | ам. дал. 340 |
| М. Сіцько | 50 |
| В. Русак | 50 |
| Л. Норык | 35 |
| М. Бахар | 30 |
| П. Драздоўскі | 30 |
| М. Кажура | 25 |
| Я. Яновіч | 25 |
| А. Акановіч | 25 |
| Н. Кіт | 25 |
| Б. Пляскач | 25 |
| Л. Бакуновіч | 25 |
| А. Васанскі | 25 |
| В. Каракулька | 25 |
| Н. Орса | 25 |
| З. Балкоўская | 25 |
| А. Магаліф | 25 |
| а. А. Яноўскі | 25 |
| Т. Пятроўскі | 25 |
| Л. Махнюк | 25 |
| Ю. Станкевіч | 25 |
| М. Ігнатовіч | 25 |
| Др. Я. Сажыч | 25 |
| Г. Дубяга, малодшы | 25 |
| А. Клімовіч | 25 |
| В. Дубяга | 25 |
| Разам | 1035 |

*Прыслана непасрэдна ў Рэдакцыю:*

| | |
|---|---|
| К. Калоша (са спадчыны Сяргея Карніловіча) | 1500 |
| БДМ (для выданьня «Беларуса» ў Беларусі | 200 |
| В. і З. Кіпель (для выданьня «Беларуса» ў Беларусі) | 120 |
| Я. Запруднік (для выданьня «Беларуса» ў Беларусі) | 100 |
| Дэмковіч | 100 |
| А. Чарнэцкая | 100 |
| М. Ганько | 100 |
| М. і В. Махнач | 100 |
| М. Казьлякоўскі | 50 |
| М. Рэдзімскі | 50 |
| Ю. Андрусышына | 30 |
| Я. Кахаsuccоўская | 30 |
| Я. Юхнавец | 20 |
| Belavia (за абвестку) | 100 |
| Х. Кажаневіч | бр. фунт. 20 |

## НА ВЫДАВЕЦКІ ФОНД БІНІМ

| | |
|---|---|
| А. Рамана | ам. дал. 500 |
| З. Смаршчок (на кнігу пра Гімназію Я. Купалы) | 200 |
| В. Кажан | 100 |
| Др. М. Смаршчок | 300 |